# К КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА № 47 (309) 29 лістапада — 5 снежня 1997 г. КОШТ 2000 РУБЛЁЎ

ДЫСКУТУЕ • ПРЭЗЕНТУЕ • РАЗВАЖАЕ





# У ЦЭНТРЫ МІРА

*Мірскі замак уражвае ўжо здалёк. Вежы ўзнімаюцца над домікамі Міра як фантастычныя прывіды. Здаецца, пад'едзеш да яго і ён знікне быццам сон, нібыта гэта толькі аптычны падман. Бо тая прыгажосць, якой дыхае замак, настолькі пранізвае чалавека, што нават, здаецца, нервы скручваюцца ў экзатычныя краявіды. Гэта цуд, што ў Карэліцкім раёне — помнік сярэднявечча. На працягу некалькіх стагоддзяў ён служыў падмуркам улады тутэйшых феадалаў. Вытрымаў ліхалецці шматлікіх войнаў. Перажыў савецкую ўладу. І вось паціху, крокам часу, набліжаецца да трэцяга тысячагоддзя.*

*З 1983 года ідзе рэстаўрацыя. Што зроблена за гэты час? Ці правільна ўсё робіцца? Ці ўвойдзе замак у новае тысячагоддзе адрэстаўраваным? Такія і іншыя пытанні і праблемы мы паспрабуем узняць у серыі матэрыялаў гэтага нумара. А іх, паверце, нямала. Мы не будзем рабіць жорсткія высновы па пытаннях, з якімі нязгодныя, бо гэта справа саміх чытачоў. Рэканструкцыя замка паскрыху рухаецца, але ў палацава-паркавы комплекс Мір уваходзіць яшчэ і парк, які пасля сёлетняй буры знаходзіцца ў страшэнна запушчаным стане і за аднаўленне якога, ці нават захаванне таго, што засталося, ніхто да гэтага часу не браўся. Гэта адна з праблемаў, якая заўважаецца адразу. А колькі яшчэ іх — незаўважаных?*



***Сёння ў нашай рубрыцы "Беларусы — трэцяму тысячагоддзю: пытанне — адказ" — праблемы сусветнавядомага старажытнага Мірскага замка.***

*Пра іх чытайце на стар. 2—3.*

№ 47 29 лістапада — 5 снежня 1997.



**БЕЛАРУСЫ — ТРЭЦЯМУ ТЫСЯЧАГОДДЗЮ:**

# МІЖНАРОДНЫ ЦЭНТР КАНГРЭСАЎ — ДОБРАЯ ІДЭЯ?

# МІРСКІ ЗАМАК БУДЗЕ АДРЭСТАЎРАВАНЫ ПРАЗ 10 ГАДОЎ?

***Пасля наведвання Мірскага замка засталося шмат пытанняў. Таму, каб атрымаць на іх адказ, мы звярнуліся да старшыні Камітэта па ахове гісторыка-культурнай спадчыны Рэспублікі Беларусь, навуковага кіраўніка работ на гэтым аб'екце Дзмітрыя БУБНОЎСКАГА.***



**— Чым выклікана ідэя стварэння на базе палацава-паркавага комплексу ў гарадскім пасёлку Мір міжнароднага цэнтра кангрэсаў ЮНЕСКО?**

— Гэты палацава-паркавы комплекс даўно з'яўляецца моцным магнітам, што прыцягвае вялікія натоўпы турыстаў. З цягам рэстаўрацыі і пасля з'яўлення ў Мірскім замку музея тут наведнікаў становіцца больш. Тым не менш, патэнцыяльныя магчымасці аўтаномна размешчанай рэзідэнцыі больш шырокія і ў жыцці грамадства не могуць быць вычарпаны толькі гэтым. Тыя залы, што ўжо працуюць, і тыя, што плануецца аднаўляць (уключаючы новую, ствараемую ў мансардзе, канферэнц-залу на 200 месцаў), магчымасці скарыстання замкавага двара і тэрыторыі вакол замка (уключаючы водную паверхню става) дазваляюць арганізоўваць на базе комплексу рознага роду культурныя акцыі, навуковыя і навукова-практычныя кангрэсы, канферэнцыі і семінары, выставы, тэатралізаваныя прадстаўленні, рознага роду фестывалі, конкурсы і іншыя мерапрыемствы.

Магчымасць аднаўлення палаца Святаполк-Мірскіх на ўсходняй ускраіне паркавай зоны з яго прыстасаваннем пад гатэль, а таксама размяшчэнне шэрагу найбольш камфартабельных нумароў ва ўсходнім крыле замкавага палаца дазволяць вырашыць бытавыя праблемы, звязаныя з арганізацыяй пералічаных вышэй мерапрыемстваў.

Месцазнаходжанне Беларусі практычна ў геаметрычным цэнтры Еўропы, яе суседства як з найбольш вялікімі славянскімі краінамі — Польшчай, Украінай, Расіяй, так і Балтыйскімі дзяржавамі — Літвой, Латвіяй, даволі выгодна для размяшчэння ў Міры цэнтра кангрэсаў. Тут прыдатнае месца для палітычных, культурных, навуковых і іншых кантактаў паміж народамі Заходняй і Усходняй Еўропы. У немалой ступені гэта звязана з тым, што ў сталіцы Беларусі месцяцца каардынацыйныя цэнтры і штаб-кватэра Садружнасці Незалежных Дзяржаў.

Стварэнне ў Міры гэткага цэнтра кангрэсаў можа паспрыяць і вырашэнню праблемы далучэння народаў постсацыялістычных дзяржаў да еўрапейскіх культурных і навуковых дасягненняў. Сённяшняя эканамічная адсталасць гэтых краін рэзка абмяжоўвае магчымасці выезду іх грамадзян за мяжу, асабліва з мэтай знаёмства з культурай іншых народаў. Прысутнасць цэнтра кангрэсаў на эканамічна больш даступнай для наведвання тэрыторыі Беларусі можа часткова кампенсаваць гэткую вымушаную самаізаляцыю культурнага жыцця. Гэта асабліва актуальна для Беларусі. З вырашэннем вышэйназванай праблемы ўзнікае магчымасць распаўсюджваць інфармацыю аб сваіх нацыянальных дасягненнях, палітычным жыцці, гісторыі і культуры, якія да сённяшняга часу недастаткова вывучаны і ў малой ступені вядомы еўрапейскім і сусветным супольнасцям. У гэтым плане стварэнне прапанаванага цэнтра можна разглядаць як шанц адраджэння актыўнага ўдзелу Беларусі ў жыцці Еўрапейскай і сусветнай супольнасці.

Размяшчэнне гэткага аб'екта на тэрыторыі Беларусі з'явілася б таксама і актам аднаўлення гістарычнай справядлівасці. Геапалітычнае месцазнаходжанне нашай краіны заўсёды было прычынай разгортвання на нашай тэрыторыі тэатра ваенных дзеянняў, што мелі месца ў Еўропе. Размяшчэнне на тэрыторыі Беларусі цэнтра шматбаковых кантактаў асноўных еўрапейскіх рэгіёнаў здолела б хаця б часткова паспрыяць эканоміцы нашай дзяржавы, якую разбуралі шматлікія вайсковыя канфлікты.

Сімвалічная нават сама назва мястэчка, дзе знаходзіцца палацава-паркавы комплекс. Слова "Мір" на многіх славянскіх мовах азначае і стан, супрацьлеглы вайне, і сусвет, і жыццё ў быце, і ўсеагульны сход для прыняцця ўзгодненага рашэння.

**— Ці апраўдана размяшчэнне гатэля, бара, канферэнц-залы ўнутры Мірскага замка?**

— Мірскі замак налічвае пяць абарончых вежаў. Дзве вежы з гатычнага перыяду ўжо практычна адрэстаўраваны. Да 1986 года існавала і здзяйснялася даволі ўтылітарная ідэя — у замку стварылі рэстаўрацыйную вучэльню. З 1983 па 1986 год ужо рыхтавалася глеба для ажыццяўлення гэтага праекта. Я і тагачасны дырэктар Нацыянальнага мастацкага музея Юрый Карачун прыйшлі да высновы, што такая ідэя з'яўляецца для сусветнай гісторыі вандалізмам. Мы звярнуліся ва Урад нашай краіны, і ён зрабіў усё магчымае, каб гэтага не адбылося. Спатрэбіўся цэлы год, каб зрабіць пераабсталяванне памяшканняў. Я лічу выдатным, што была падтрымана наша прапанова зрабіць у замку філіял Нацыянальнага мастацкага музея. Бо сёння шмат гістарычных экспанатаў не маюць свайго належнага прытулку — пыляцца ў фондасховішчах. Філіял музея ўжо адкрыты для наведнікаў у адной з адрэстаўраваных вежаў. Праўда, у вежы досыць халодна. Гістарычна яна ніколі не ацяплялася і было б неабгрунтавана з метадычных прычын пераіначваць гэтую вежу зараз. Таму тут дэманструюцца мячы, дзіды, кераміка — тое, што можа захоўвацца ў гэткіх кліматычных умовах. У памяшканнях палаца мяркуецца размясціць старажытную мэблю, партрэты дзеячаў мінулага, габелены, вырабы старажытных беларускіх мануфактур, рэчы, звязаныя з дзейнасцю гістарычных асоб. Да таго ж у Мірскім замку плануюцца экспазіцыі аб нацыянальных меншасцях, якія пражывалі на тэрыторыі нашай краіны — аб габрэйскай, татарскай, цыганскай культурах. Канечне, усходняе крыло замка самае шматпакутнае — гэта менавіта там пачалі рабіць вучэльню. А да гэтага князем Святаполк-Мірскім у 20-30 гады нашага стагоддзя яно было прыстасавана для жылля. У 1939 годзе, пасля разрабавання гэтай часткі палаца, там была арганізавана вытворчая арцель. Потым, падчас нямецкай акупацыі, у Мірскім замку быў арганізаваны лагер для ваеннапалонных і гета, і ў ацалелых памяшканнях знаходзілася ўпраўленне акупацыйных уладаў. Гэтае ўсходняе крыло замка да рэстаўрацыі Святаполк-Мірскім было разбурана з часоў Напалеонаўскай кампаніі. Таму, калі мы падышлі да вырашэння пытання аб далейшым лёсе гэтага корпуса, дык зразумелі, што ягоныя магчымасці больш значныя. Тут можна рабіць розныя зменныя экспазіцыі. Мірскі замак — візітная картка Беларусі. Таму падыход да рэстаўрацыі тут самы сур'ёзны.



Двор замка можна выкарыстоўваць пад тэатралізаваныя імпрэзы. Можна было б праводзіць у замку розныя культуралагічныя канферэнцыі. Не так даўно Рэспубліка Беларусь і ЮНЕСКО распрацавалі сумесны праект. Распрацоўка нашых прапаноў па праекце ЮНЕСКО "Мірскі замак" ажыццяўлялася ў адпаведнасці з запісамі ў пратаколе-мемарандуме аб супрацоўніцтве паміж Рэспублікай Беларусь і ЮНЕСКО. Гэты пратакол мемарандума быў падпісаны ў Мінску падчас наведвання нашай краіны генеральным дырэктарам ЮНЕСКО Фрэдэрыка Гарсія Маёрам. З боку замежнікаў узнікла пытанне, чаму б Мірскі замак не скарыстоўваць у палітычных і эканамічных мэтах? У час прыстасавання ўсходняга корпуса пад гэткія новыя функцыі — пад падобнае размяшчэнне часткі рэзідэнцыі — паўстала праблема. Бо рэзідэнцыя — гэта не толькі прыгожыя пакоі, дзе сустракаюцца, абмяркоўваюць набалелае, пражываюць, адпачываюць. Бясспрэчна, каб гэты комплекс дзейнічаў, павінен быць вельмі магутны блок тэхнічных і тэхналагічных памяшканняў. Патрэбна кухня, цэлы шэраг іншых памяшканняў па забеспячэнні нармальнага рэжыму дзейнасці і ўтрымання гэтай прыгожай часткі комплексу. Размяшчаць гэта непасрэдна ў старажытных інтэр'ерах Мірскага замка немэтазгодна, бо, па-першае, самі памяшканні знікаюць з культурнага ўжытку, а па-другое — старажытныя памяшканні не вельмі для гэтага прыдатныя. Каб пазбегнуць гэтага, было прынята рашэнне аб вывядзенні ўсяго тэхналагічнага блока ў асобную падземную пабудову, якую маецца зрабіць з усходняга боку замка. І канструктары, і эканамісты не адзін дзень думалі над гэтым праектам. Пралічаны ўсе моманты, нават дапушчальная колькасць людзей, што змогуць прыпыняцца ў замку.

Палаца ва ўсходняй частцы парка практычна няма. Можна сказаць, што будзе ўзводзіцца новы будынак.

Ідэя стварыць у сарцавіне замка гэткі турыстычны, палітычны і эканамічны комплекс была ў свой час падтрымана Міністэрствам замежных спраў. У 1992 годзе праект рэстаўрацыі Мірскага замка і ход яго рэалізацыі быў разгледжаны экспертам ЮНЕСКО Гельмутам Штэльцэрам. Гэты спецыяліст даў высокую ацэнку і праектнай распрацоўцы, і ходу рэалізацыі, і практычным ідэям па далейшым выкарыстанні гісторыка-культурнай каштоўнасці. Ва ўсім свеце існуе добрая традыцыя правядзення важных палітычных мерапрыемстваў у старажытных будынках. Так, калі былы прэзідэнт Савецкага Саюза Міхаіл Гарбачоў наведваў Францыю, яму для пражывання адводзіўся замак.



**— У якую суму ацэньваецца кошт праекта міжнароднага цэнтра кангрэсаў?**

— Па падліках экспертаў ЮНЕСКО агульны кошт праекта — каля дваццаці пяці мільёнаў долараў ЗША. На сённяшні момант з боку ЮНЕСКО нам ахвяравана 30 тысяч долараў. Таксама аказаў дапамогу наш беларус, што пражывае ў ЗША, спадар Лук'янчык, ён ахвяраваў на праект дзесяць тысяч долараў. Канечне, у межах глабальнай рэстаўрацыі-адбудовы — гэта не так і шмат. Летам 30 тысяч долараў хапае літаральна на месяц. Рэканструкцыйныя работы зараз праводзяцца практычна толькі за кошт дзяржаўнага бюджэту нашай краіны.



## КАРОТКАЯ ГІСТОРЫЯ МІРСКАГА ЗАМКА

*Палацава-замкавы комплекс у пасёлку Мір уключае замак, палац, парк і капліцу-пахавальню. Пабудаваны ў пачатку XVI ст. з цэглы магнацкім родам Іллінічаў. З 1568 г. да XIX ст. належаў Радзівілам, з другой паловы XIX ст. — Вітгенштэйнам, потым — Святаполк-Мірскім. Архітэктура замка XVI ст. мае рысы позняй беларускай готыкі. У 1580—90-я гады замак перабудаваны ў стылі рэнесансу пад загарадную княжацкую рэзідэнцыю. Быў пашкоджаны ў выніку аблог 1655 і 1706, адноўлены ў пачатку XVIII ст., пры гэтым зніклі рэнесансныя дэталі. Моцна разбураны ў 1794, у часы паўстання Т.Касцюшкі, замак занепаў. З 1795 года Мір — у складзе Расіі. 27—28 чэрвеня 1812 года пад сценамі замка адбыўся бой паміж французскай кавалерыяй і адступаючай рускай арміяй. Была ўзарвана адна з вежаў, разбураны, абрабаваны і спалены палац. У 1870-я гады пачалася праца па захаванні замка як помніка старажытнасці. У 1912 г. праведзены першыя археалагічныя даследаванні (Ю.Ядкоўскі). З 1921 да 1939 г. Мір — у складзе Польшчы, у 1920—30-я гады замак часткова адноўлены.*

*З 1969 замак знаходзіцца ў стадыі кансервацыі і рэстаўрацыі.*

**("Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Гродзенская вобласць". Мінск, 1986; "Архітэктура Беларусі. Энцыклапедычны даведнік". Мінск, 1993)**

## ПЫТАННЕ — АДКАЗ

# НЕ ПАСВІЦЕ КАРОЎ У ПАРКУ РАДЗІВІЛАЎ!

***Пра тое, што ў адной з вежаў Мірскага замка знаходзіцца музей, мы даведаліся толькі пабываўшы ў ім. Гэта філіял Нацыянальнага мастацкага музея, і існуе ён з 1992. Музей складаецца з 6 залаў. У першай, падвальным памяшканні, размешчана экспазіцыя, прысвечаная будаўнічым матэрыялам, якія выкарыстоўваліся пры ўзвядзенні замка і яго рэстаўрацыі. У другой зале — прадметы побыту беларусаў. Трэцяя прысвечана гісторыі вывучэння замка, у ёй змешчаны праекты рэканструкцыі, выкананыя архітэктарам Дзмітрыем Бубноўскім; фотаздымкі канца XIX — пач. XX ст., якія захоўваліся ў жыхароў мястэчка. У наступнай зале выстаўлены зброя, кальчугі, сцягі, выкананыя па ўзорах XII—XVII стст. У пятай зале змешчаны унікальныя помнікі керамікі XVI ст., знойдзеныя пры раскопках замкаў у Міры, Лідзе, Мсціславе, Мінску, Віцебску. Апошняя зала ўяўляе сабой рэканструкцыю абарончага памяшкання.***

***Каб больш даведацца пра музей, мы задалі некалькі пытанняў загадчыку музея Галіне МАНЮКЕВІЧ.***

**— Які лёс чакае музей, што тут плануецца?**

— У далёкай будучыні плануецца, што тут будзе міжнародны музейны цэнтр, будуць праводзіцца розныя каферэнцыі і іншыя навуковыя мерапрыемствы.

**— Экспазіцыі музея, відаць, значна пашырацца?**

— Канечне, музей будзе займаць усе вежы, паўночны палац, а ва ўсходнім палацы мяркуецца размясціць гатэль, рэстаран, бар для тых, хто прыедзе сюды на канферэнцыі.

**— За кошт чаго будзе папаўняцца экспазіцыя музея?**

— За кошт таго, што нам удасца знайсці падчас экспедыцый.

**— Здаецца, умовы не вельмі спрыяльныя для захавання экспанатаў...**

— Так, сапраўды. У нас няма цёплых памяшканняў з патрэбнай тэмпературай і вільготнасцю. Усе каштоўныя экспанаты мы захоўваем у Мінску ў Нацыянальным мастацкім музеі. Але мы гаворым дзякуй нашаму начальству нават за гэты вагончык, у якім зараз месцяцца нашыя супрацоўнікі, раней і гэтага не было.

**— Як часта праходзяць экскурсіі?**

— Вельмі часта. За апошні квартал у нас прайшло больш за пяць тысяч чалавек. У дзень бывае больш за 20 аўтобусаў.

**— Гэта ў апошні час так?**

— Менавіта сёлета. І раней было шмат, але сёлета асабліва вялікі наплыў наведнікаў.

**— Што ўваходзіць у праграму экскурсіі?**

— Мы можам прапанаваць экскурсію па вежы, па залах музея альбо па парку. Можам зрабіць экскурсію і па Міры, у нас ёсць касцёл, Траецкая царква, габрэйская школа і шыбут талмудычны.

**— А ў самім замку пакуль няма чаго паказваць?**

— А нас і не пусцяць туды будаўнікі, там нельга хадзіць. Хутка тут будзе агароджа.

**— На сённяшні дзень, што вас турбуе больш за ўсё?**

— Умовы нашага існавання: няма памяшканняў для супрацоўнікаў, для складоў. Турбуюць і арганізацыйныя пытанні: як людзей усіх прапусціць, вежа ў нас маленькая, залы маленькія, па вінтавой лесвіцы цяжка падымацца, бо адначасова ў музеі можа знаходзіцца не болей за 10 чалавек, а наведнікаў шмат. Хочацца, каб хутчэй ішла рэканструкцыя, каб пашырыўся музей і людзі маглі зайсці ў адным месцы, а выйсці ў другім — тады болей людзей змогуць паглядзець музей.



**— Ці не будзе неяк шкодзіць музею тое, што ў замку размесціцца гатэль, рэстаран?**

— Мне здаецца, што гэта будзе стасавацца адно з адным. Існуе праект, ён зацверджаны. А з другога боку, калі людзі будуць прыязджаць на канферэнцыі, на выставы, ім жа трэба недзе жыць, харчавацца. А інакш дзяржава замак "не пацягне", калі не будзе ўсяго гэтага.

**— Колькі супрацоўнікаў у музеі?**

— У нас чатыры наглядчыкі, адзін экскурсавод, адзін малодшы навуковы супрацоўнік, два рабочыя, тры вартаўнікі, загадчык гаспадаркі і касір. Працы ўсім хапае. Нас вельмі турбуе парк — усё гэта называецца палацава-паркавы комплекс Мір. І калі сам замак рэстаўруецца, дык парк зусім не дагледжаны. Пры Радзівілах было 300 экзатычных каштоўных парод дрэваў, а зараз, можа, усяго 30. І ўраган, які быў сёлета, вельмі шмат шкоды нарабіў у парку, ёсць цэлыя палосы навываробчаных дрэваў.

**— У парку пакуль нічога не рабілася?**

— Ёсць праект яго аднаўлення, ідуць перамовы з камітэтам аховы, каб хоць якую агароджу пакуль зрабілі, каб людзі на машынах не заязджалі, каб кароў тут не пасвілі. Нават з гэтым нам трэба змагацца. Але мы спадзяемся, што ўсе праблемы вырашацца.



## МЕРКАВАННІ



***Валянцін КАЛНІН, намеснік дырэктара па навуцы Беларускага дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і побыту, кіраўнік "Праекта рэстаўрацыі і прыстасавання Мірскага замка" 1982 года, аўтар кнігі "Мірскі замак":***

— Праекты, што былі да нас, грунтаваліся на асобных момантах гісторыі Замка. Былі нават прапановы рэалізаваць першапачатковы праект Замка, які, як вядома, ніколі не быў дабудаваны. Мы вырашылі, што трэба захаваць усё — і готыку, і рэнесанс, і барока, і рамантызм, і нават кавалкі рацыяналізму пачатку XX ст.

Але мэта рэстаўрацыі — гэта ўсё ж прыстасаванне аб'екта. Былі прапановы зрабіць у замку Дом творчасці мастакоў ці архітэктараў. Але Саюзы фінансава "не цягнулі", і нам было цяжка, і ім. Калі прыйшла ідэя зрабіць у Замку мастацкую прафесійна-тэхнічную вучэльню, яна неяк адразу "лягла" на праект. Вучэльня атрымоўвала б ад Замка тэмы, Замак ад вучэльні — вучнёўскія копіі мастацкіх аб'ектаў. На жаль, гэтая ідэя не рэалізаваная, хаця і цяпер відаць, што без вучэльні, што знаходзіцца побач, у Замку не абысціся. І што атрымалася? У музеі Замка час ад часу з'яўляюцца наборы рэчаў — клінкоў, ювелірных вырабаў — амаль выпадковыя, у залежнасці ад таго, хто з майстроў які заказ ухапіў. А Замак — гэта музейны комплекс, асобнымі наборамі там не абысціся.

Што да рэстаўрацыі замка, то цяпер сюды прыйшлі іншыя людзі, якія і будуць за яго адказваць. Сёння ў нашай культуры самая страшэнная з'ява — гэта калі пачынаецца падробка. Атрымоўваецца, як у Дастаеўскага: "Усё дазволена". Можна арыгінальны твор дарабіць замест аўтара так, што ён будзе непазнавальны. Калі ў Мір прыязджаюць спецыялісты з-за мяжы, яны дзівяцца на тое, што там ідзе цалкавітае аднаўленне. За мяжой ды і тут, у Міры, у ранейшыя часы існавала павага да старых муроў. Рэстаўратары рабілі так, як ім было патрэбна, але старыя муры не кранaлі, сваё дабаўлялі побач. Урэшце Замак — гэта помнік розных часоў. Заўсёды адбываліся змены і ўсе яны фіксаваліся на Замку. І тое, што цяпер адбываецца, — таксама застанецца. Гэта будзе адлюстраванне той гісторыі, у якой мы сёння жывем. Калі руйнуецца кавалак арыгінальнай вежы — значыць, нашыя часы дазваляюць гэткі вандалізм. Як будзе помнік выглядаць — так мы і жылі.

Мяне ўсё ж задавальняе тое, што нейкія нашы ідэі засталіся, хай нават славу за гэта здабудзе нехта іншы.



***Галіна САЎЧАНКА, намеснік старшыні Беларускага добраахвотнага таварыства аховы помнікаў:***

— На жаль, Камітэт па ахове гісторыка-культурнай спадчыны пакінуў нас у няведанні наконт работ па рэканструкцыі Мірскага замка. Гэтае пытанне разглядалася на паседжанні секцыі БДТАП, аднак працягу — з боку Камітэта — пытанне не атрымала. Зноў-такі на жаль, апошнім часам гэткія адносіны становяцца нормай. Камітэт лічыць Таварыства не больш чым перашкодай у сваёй, даволі небясспрэчнай працы. Без належнага навуковага абгрунтавання знішчаюцца гістарычныя помнікі, у складзе навукова-метадычнай Рады па пытаннях гісторыка-культурнай спадчыны (з якой, дарэчы, Таварыства выключана) не хапае кваліфікаваных навукоўцаў. У выніку Рада прымае тыя рашэнні, якія дыктуе Камітэт. Па Мірскім замку мы згодныя з меркаваннем Валянціна Калніна.

# І ПРАВІЛЬНА, ШТО НЕ ЗРАБІЛІ "ПРАВІЛЬНА"



***Каб даведацца, як ідуць работы па ўзнаўленні помніка, мы сустрэліся з майстрам арэнднага прадпрыемства Мінскрэстаўрацыя Аляксандрам ХАНЬКО, які працуе ў Мірскім замку з 1993 года.***

— Працаваў спачатку рабочым, таму ўсё добра ведаю на ўласным вопыце. У свой час скончыў Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію.

**— Як вы лічыце, колькі часу яшчэ патрэбна, каб поўнасцю закончыць рэканструкцыю замка?**

— Гадоў дзесяць — не менш. Усё ўпіраецца ў тое, што праектная дакументацыя не паспявае за ходам работ. Кожны год на месяц, а то і болей адбываюцца прастоі з гэтай прычыны. Корпус, над якім мы зараз працуем, дакументацыяй не забяспечаны, таму работы вядуцца не на поўную магутнасць. Гэтай вясной праектныя работы перададзены новай арганізацыі — Саюзтэхсервіс. Спадзяюся, што працэс паскорыцца.

**— Як ідзе фінансаванне рэстаўрацыйных работ?**

— Работы фінансуюцца нармальна. Поўнымі лічбамі я не валодаю, але ведаю, што на гэты год нам выдаткавана пяць мільярдаў восемсот мільёнаў рублёў. Засвоіць нам засталося яшчэ каля двух мільярдаў рублёў. Наўрад ці мы паспеем. Але праблема тут не толькі ў тым, што мы не паспяваем. Калі б была дакументацыя, мы б ведалі, якія матэрыялы нам патрэбныя, і закупілі б іх. Грошы ёсць, а што з імі рабіць — невядома. Праўда, можа, сітуацыя зменіцца і мы ўсё ж управімся, бо наперадзе засталася дарагая работа па металаканструкцыях, засталася падвесная столь. Шмат чаго таксама залежыць ад надвор'я.

**— У сувязі са спецыфічнасцю працы, з якімі праблемамі і складанасцямі вы сутыкаецеся?**

— Самая вялікая складанасць у самой архітэктуры гэтага замка — тут няма ніводнага прамога кута. Робім усё па чарцяжах, але ў праектах гэта не ўлічана. Усё нібыта ідзе спачатку нармальна, а потым атрымліваецца што не. Таму даводзіцца ўвесь час звяртацца да праекціроўшчыкаў і рабіць нейкія змены. Пачнеш працу і бачыш, што выходзіць не так, як трэба, а назад ужо не вернеш, таму і даводзіцца неяк выкручвацца.

**— Значыць, рэальны аб'ект будзе значна адрозніваецца ад таго замка, што існаваў у старажытныя часы?**

— Не, я так не лічу. Любы праект падчас работ церпіць змены. Увогуле я не ведаю, як тут што збіраліся рабіць, але цяпер тут вырашылі зрабіць рэзідэнцыю міністэрства замежных спраў. Тут усё будзе па-сучаснаму — унутранае афармленне.

**— А знешняе? Як будаўнік, вы можаце сказаць: тое, што будуецца цяпер, будзе такім, як было раней?**

— Так. На сто працэнтаў.

**— А разыходжанні з праектам?**

— Яны нязначныя і ў цэлым на замку не адаб'юцца. Вось, напрыклад, гэтыя металаканструкцыі — тут кут не прамы, а крыху разгорнуты. Таму металаканструкцыі з улікам гэтага прыходзіцца разварочваць на патрэбны кут. Усё, што звязана з сучаснымі тэхналогіямі, зразумела, будзе адрознівацца — металаканструкцыі, атынкоўка, падвесныя столі, але знешне гэта будзе незаўважна.

**— Паводле якога перыяду ідзе рэстаўрацыя замка?**

— У праекце ўлічваюцца ўсе перыяды. Самы першы, калі былі толькі пяць вежаў і галерэя. І пазнейшыя прыбудоўкі.

**— Колькі чалавек працуе на аб'екце?**

— Дваццаць восем чалавек разам з вартаўнікамі.

**— Гэта не мала?**

— Не, у прынцыпе ўсе спецыялісты, якія нам патрэбныя, у нас ёсць. Прычым, майстры высокага класа. Нягледзячы на тое, што калектыў у нас малады, сярэдні ўзрост — прыкладна трыццаць гадоў.

**— Людзі працуюць на вельмі важным для гісторыі і культуры Беларусі аб'екце, ці адчуваюць яны ў сувязі з гэтым неабходнасць асаблівых адносін да працы?**

— Гэта залежыць ад таго, якая работа. Калі гэта звычайныя металаканструкцыі, дык там нічога цікавага няма, але калі даводзіцца разбіваць старую кладку, дык адчуваеш судакрананне з нечым старажытным і патаемным. Але самае галоўнае — якасць.

**— Ці былі на будоўлі нейкія незвычайныя выпадкі?**

— Быў выпадак, звязаны з асаблівасцю пабудовы. Калі мы скончылі рэстаўрацыю другой вежы, дык атрымалася, што калі заходзіш у яе, узнікае ўражанне, быццам сцены падаюць. А рэч у тым, што сцены тут сапраўды нахіленыя. З гэтага ўзнікла праблема: захаваць так, як ёсць, ці зрабіць правільна? Гістарычны падыход перамог.



**Матэрыялы разгорткі падрыхтавалі Міхась БАШУРА, Зміцер ВОЛКАЎ і Ігар КЛОКАЎ. Фота Генадзя ЖЫНКОВА, Дзмітрыя БУБНОЎСКАГА і Міхася БАШУРЫ.**

№ 47 29 лістапада — 5 снежня 1997.



# "ЛІСТАПАД-97" ЯК "РЭХА" КІНАФЕСТЫВАЛЯЎ "АКНО Ў ЕЎРОПУ", "КІНАТАЎР" І "КІНАШОК"




Амерыканцы з'яўляюцца мастакамі ў стварэнні рымейкаў, гэта значыць фільмаў па матывах іншай стужкі, якая мела поспех. А ў кінематаграфістаў-расіян таленты на іншае: яны выклікаюць класічны твор на паядынак. Можна сказаць па-іншаму: нашы здольныя да куражу і адначасова прызнаюцца ў любові. Што і робіць Генадзь Палока ў фільме "Вяртанне браняносца". Зрэшты, Палока прысвячае сваю трагікамічную фантазію не толькі любімаму мастацтву і яго кумірам, але і яго няўдачнікам.

Стужкай "Вяртанне браняносца" адкрыўся ў сея не было, — сцвярджае Віталь Мельнікаў. Царэвіч зрабіў толькі выпад супраць жорсткасцяў бацькі. Рэжысёр узнаўляе эпоху, у якой тонкія, незадубелыя натуры гінулі пад ціскам дзяржавы.

У другой карціне дзейнічаюць "новыя рускія" мужчыны, якія шпарацъ на "мерседэсах", і "новыя рускія" жанчыны, якія лічаць кожны грош у рыдыкюлі.



*Уладзімір Машкоў у фільме "Злодзей".*

сталіцы фестываль "Лістапад-97" (22 лістапада ў кінатэатры "Кастрычнік"). Самае непасрэднае дачыненне да карціны маюць і беларусы: сярод тых арганізацый, што яе фінансавалі, лічыцца фонд садзейнічання развіццю мастацтва, а сярод прадзюсераў — мінчанін Міхаіл Зусмановіч.

Ці апынецца "Браняносец-96" сярод узнагароджаных на гэтым "Лістападзе", бо фестываль мае някепскую калекцыю таленавітых стужак? Ва ўсялякім разе выбар для трох журы будзе цяжкаватым. Я бачыла дзевяць стужак з шаснаццаці і магу гаварыць аб тым, што пяць — шэсць фільмаў прынясуць гледачам задавальненне. Перш за ўсё, гэта драмакамедыя (так пра гэты жанр казалі раней) Івана Папова "Кацяня" (Расія). Стужка дэманстравалася на сёлетнім МКФ у Берліне і атрымала кампліменты ў прэсе. А журы КФ "Акно ў Еўропу" ў г.Выбаргу прысудзіла аўтарам "Кацяняці" галоўны прыз за лепшы фільм і дыплом і прэмію за дэбют.

Увогуле "Лістапад-97" можна назваць "рэхам" расійскіх фестываляў "Акно ў Еўропу", "Кінатаўр", "Кінашок". Мінскія гледачы ўбачаць усіх трох галоўных прызёраў. З фільмам "Кацяня" спаборнічалі "Царэвіч Аляксей" пецярбуржца Віталя Мельнікава (галоўны прыз за лепшую мужчынскую ролю Аляксею Зуеву) і "Прынцэса на бабах" украінца Вілена Новака (прыз за лепшую рэжысуру, прыз Алене Сафонавай за лепшую жаночую ролю).

Першая стужка абвяргае думку, якая ўсталявалася папярэднімі гістарычнымі карцінамі пра трагічны канфлікт Пятра І і яго сына. Змовы з боку Аляк-

Тут цікавая пастаноўка сацыяльнай праблемы: хто з іх гаспадар у міжасабістых адносінах?

"Райскай птушцы" апладзіравалі на "Кінашоку" ў Анапе. Яе аўтар грузін Гадэрдзі Чахелі — сапраўдны самародак. Ён узнаўляе лепшыя традыцыі грузінскага камедыйнага фільма, хаця яго смех мае прысмак гаркоты. Фільм разглядае псіхалагічную сітуацыю паміж двума горцамі ў постсавецкія часы, ён зроблены ў форме рэальнага жыцця і адначасова метафарычны.

Стужка "Злодзей" ужо на вуснах многіх, бо мае тры ўзнагароды 54 МКФ у Венецыі, тры на "Кінашоку" і ўжо вылучана на атрыманне прэміі Еўрапейскай акадэміі кінамастацтва "Фелікс". "Злодзей" — дабротны фільм, які трымаецца на ўзнаўленні атмасферы 50-х гадоў, на выдатных акцёрскіх работах, перш за ўсё Уладзіміра Машкова і падмаскоўнага хлопчыка Мішы Філіпчука.

Той, хто лічыць сябе "гурманам" у кіно, ужо змог ацаніць вартасці карціны літоўскага рэжысёра Альгімантаса Пуйпы "Каралі з воўчых зубоў". Гэта суровы і аднačасова паэтычны ўспамін пра ваенные і пасляваеннае дзяцінства пакалення, якому зараз пад шэсцьдзесят.

Ну, а яшчэ ёсць у праграме нашумелы "Брат" Аляксея Балабанава (Гранпры "Кінашоку", прыз за лепшую мужчынскую ролю Сяргею Бадрову-малодшаму). Канешне, ёсць некалькі стужак, якія, на мой погляд, можна было б і не запрашаць. Але няхай вердыкт выносяць гледачы.

**Ала БАБКОВА**

*Пра выніку "Лістапада-97" чытайце ў наступным нумары.*

# "КАЛАСАВІНЫ-97"

Паводле шматгадовай традыцыі ў дзень нараджэння Якуба Коласа навуковай канферэнцыяй пачынаецца літаратурнае свята "Каласавіны". Сёлета ўдзельнічаць у даследніцкім форуме пажадалі нават студэнты. Ахвотных падзяліцца сваімі доследамі і вывучэннямі Коласавай спадчыны было так многа, што навуковую канферэнцыю давялося праводзіць два дні. Шмат каму запомніліся даклады: "Новая зямля": аўтарская задума і гісторыя яе інтэрпрэтацый" члена-карэспандэнта Акадэміі навук Беларусі Міхася Мушынскага, "Вобразы і матывы зямнога раю ў паэзіі Якуба Коласа" доктара філасофскіх навук Уладзіміра Конана, "Ад хаосу да космасу (па матывах алегарычных твораў Якуба Коласа)" прафесара Аляксея Рагулі, "Выяўленне мясцовых рэалій у "Новай зямлі" Якуба Коласа і "Пане Тадэвушы" Адама Міцкевіча" дацэнта Магілёўскага педагагічнага універсітэта Яраслава Клімуця, "Новая зямля" ў прасторы і часе макра-і мікракосмасу" журналіста Здзіслава Сіцькі, "Сацыяльна-філасофская аснова алегарычных твораў Якуба Коласа" аспіранта Аляксандра Гурыновіча, "Пра Якуба Коласа і ягоныя творы на Вугоршчыне" студэнткі Будапешцкага універсітэта Эстэр Смолінкі. З цікавым паведамленнем пра Коласавы сшыткі з запісамі 148-мі забытых беларускіх словаў выступіла навуковы супрацоўнік музея Галіна Зайцава.

"Каласавіны" прадоўжыліся на Стаўбцоўшчыне. Для ўдзельнікаў і гасцей свята экскурсію па Коласавым Панямонні правёў Георгій Міцкевіч, унук роднага паэтавага брата Іосіфа Міхайлавіча — дзядзькі Юзіка, старшы навуковы супрацоўнік музея. З болем глядзелі госці на панішчаны сёлетнім ураганам лес у ваколіцах мемарыяльнай сядзібы Альбуць. "Шлях малазямельцаў", што калісь вёў туды векавым борам, выглядае цяпер нібы поле пасля бітвы. Сіратліва стаяць на пустэчы разьбёныя з дрэва скульптуры герояў "Новай зямлі". Бура зламала і паэтаву ліпу на дзядзінцы Альбуцкай сядзібы, але будынкі ўцалелі.

Далей шлях вёў у Ласток. Па дарозе госці прыпыніліся ва ўрочышчы Чартавіца ды падзівіліся на "Чорны камень, што вякамі над азяркам ляжыць як хата". Георгій Міцкевіч ды Аляксей Пяткевіч расказалі мясцовыя легенды пра ўзнікненне назвы гэтага помніка прыроды.

У Ластку яшчэ стаіць хата, у якой з 1885 па 1890 жыла сям'я Міцкевічаў. Гэта адзіная будыніна, што ацалела ў віхурах некалькіх войнаў. Сёлета тут, у двух пакоях мемарыяльнай хаты, наладжана выстава "Сымон-музыка", адкрыццё якой і было прымеркавана да "Каласавінаў". Пачынаючы ўрачыстасць, Зінаіда Камароўская, дырэктар літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа, падзякавала раённаму начальству, шматлікім фундатарам, якія дапамаглі абсталяваць музей на сядзібе Ласток.

Перад прысутнымі жыхарамі Стаўбцоўшчыны, а іх на свята ў Ласток прыехала нямала, выступілі намеснік старшыні райвыканкама Іван Багатка, загадчык аддзела культуры Анатоль Грэкаў, паэт Васіль Зуёнак, пісьменнік Генрых Далідовіч, сваяк Якуба Коласа Сымон Белы. Георгій Міцкевіч нагадаў пра некаторыя эпізоды жыцця нашага нацыянальнага паэта, звязаныя з гэтай цудоўнай мясцінай. З успамінаў Якуба Коласа можна меркаваць, што менавіта ў Ластку загучалі паэтычныя струны душы маладога Костуся, адгукнуліся на песні жаўрукоў, якія спявалі тут надзвычай прыгожа, як нідзе больш. Налета прыедуць сюды спаборнічаць з жаўрукамі і сябрамі ўдзельнікі традыцыйнага, ужо міжнароднага, фестывалю маладых музыкантаў: тут, у Ластку, адбудзецца свята "Сымон-музыка". А ў той дзень для прысутных гралі і спявалі аматары фальклорнага гурта "Гавезнянка".

З надзеяй на спатканне праз год развіталіся ўдзельнікі ды госці "Каласавінаў — 97". Да берагоў Буга, Дняпра, Дуная, Нёмана, Сожа павезлі яны незабыўныя ўражанні і ўсведамленне, што Коласава спадчына яшчэ не спазнаная, не ацэненая, як належыць быць ацэненай творчасці вялікага нацыянальнага паэта.

**Пётра ПАШКАВЕЦ**

# "САММІТ" МУЗЕЙШЧЫКАЎ

У Беларускім дзяржаўным музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны на працягу тыдня праходзіў навукова-практычны семінар па праблемах ваеннай гісторыі. Яго ініцыятарамі і арганізатарамі выступілі музей і Беларускі інстытут праблем культуры.

Семінар сабраў дастаткова вялікую аўдыторыю з ліку кіраўнікоў і навуковых супрацоўнікаў музеяў нашай краіны. Сярод удзельнікаў былі прадстаўнікі найбуйнейшых абласных музеяў Віцебска, Гродна, Магілёва, Мінскага абласнога музея, Мемарыяльнага комплексу "Брэсцкая крэпасць-герой", а таксама музейшчыкі з Баранавічаў, Оршы, Вілейкі, Вягомля, Клецка, Барысава, Карэлічаў, Смаргоні, Чэрвеня, Лоева, Іканаў і інш.

Семінар ставіў тры асноўныя мэты: знаёмства з сучаснымі навуковымі распрацоўкамі па гісторыі Беларусі 1941 — 1945 гг., з работай Белдзяржмузея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны ў напрамку новых метадык музейнага адлюстравання названага перыяду і, вядома, абмен думкамі і вопытам работы ў гэтым накірунку.

Навуковыя супрацоўнікі музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны азнаёмілі гасцей з вопытам сваёй работы па асноўных напрамках музейнай дзейнасці. Была прадстаўлена канцэпцыя развіцця навуковай работы музея, а таксама асноўныя формы яго навуковых даследаванняў у галіне гістарычнай навукі і музейнай практыкі. Слухачы семінара азнаёміліся з навуковымі і даведачнымі выданнямі апошняга часу. Асаблівы інтарэс выклікалі спецыяльныя каталогі і часопісы, якія выдаюцца за межамі нашай краіны.

У працэсе знаёмства з адкрытымі пасля генеральнай рэканструкцыі музейнымі заламі ішла гаворка па праблемах суадносінаў традыцыйных і сучасных падыходаў да навуковага праектавання экспазіцыі. На прыкладзе новых выстаў атрымала развіццё надзвычай актуальная тэма актыўнага выкарыстання музейных фондаў. Удзельнікі семінара ўбачылі найбольш цікавыя калекцыі, пазнаёміліся з камп'ютэрным улікам фондаў.

Закраналіся таксама пытанні пошуку новых метадык навукова-асветніцкай дзейнасці ваенна-гістарычнага музея, існавання музейных філіялаў і г.д.

Семінар завяршыўся "круглым сталом".

**Ірына ВАРАНКОВА,**
**намеснік дырэктара Белдзяржмузея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны**

# ...І НАВАТ САНІ НАПАЛЕОНА

**(Да 130-годдзя з дня заснавання Магілёўскага гісторыка-этнаграфічнага музея)**

Кожнаму новаму наведніку Магілёва ў канцы XIX стагоддзя раілі сярод пяці славутасцей горада агледзець і музей пры Губернскім статыстычным камітэце. А заснаваны Магілёўскі музей быў у 1867 г., дзякуючы садзейнічанню і асаблівым намаганням сапраўднага члена і сакратара Губернскага статкамітэта Біпена. Размясціўся музей у каменным будынку губернскага архіва, які знаходзіўся на Дняпроўскім праспекце. Аднак музей спачатку не атрымаў хуткага развіцця і да 1878 года знаходзіўся не ў лепшым стане. І толькі дзякуючы ініцыятыве і намаганням губернатара Магілёўскай губерні А.С.Дамбавецкага на музей была звернута асаблівая ўвага. Накірунак быў узяты на наданне яму гісторыка-этнаграфічнага профілю.

Фонды музея пачалі хутка папаўняцца сабранымі з розных куткоў губерні этнаграфічнымі, археалагічнымі і гістарычнымі матэрыяламі. Музей па сваёй структуры складаўся з трох аддзелаў: гістарычны, прамысловы і геаграфічны. У гістарычным аддзеле акрамя калекцый рукапісаў, партрэтаў, манет, розных старажытных прадметаў захоўваліся і такія экспанаты, як: сімвалічныя ключы Магілёва работы мясцовых майстроў, сані Напалеона І, якія ім былі кінуты ў час уцёкаў з-пад Масквы, вялікі залочаны трон з вензелем імператрыцы Кацярыны ІІ, грамата караля Сігізмунда ІІІ 1606 г., драўляная балка з надпісам: "Благослови Господи дом сей и всех живущих в нем. 1696 г.", узятая з невялікай хаты, у якой спыняўся Пётр І.





У прамысловым аддзеле захоўваліся прадметы народных рамёстваў і промыслаў, якія былі сабраны ў Рагачоўскім, Магілёўскім, Горацкім, Быхаўскім, Чавускім і Клімавіцкім паветах. Таксама значная колькасць этнаграфічных рэчаў экспанавалася ў геаграфічным аддзеле. Сярод іх два манекены ў беларускіх нацыянальных строях, некалькі ўзораў мужчынскага і жаночага адзення (34 адзінкі), абутак, музычныя інструменты і іншае. Усе экспанаты суправаджаліся этыкеткамі і кароткімі этнаграфічнымі тлумачэннямі аб розных баках народнага побыту. Аўтарам этнаграфічнага апісання ў экспазіцыі з'яўляўся рэдактар "Могилёвских губернских ведомостей" М.В.Фурсаў. Такое апісанне ставілася ў той час як прыклад для выкарыстання ў іншых музеях Расійскай імперыі. Такім чынам, Магілёўскі музей па структуры фондаў і экспазіцыі быў музеем гісторыка-этнаграфічнага профілю. Неабходна адзначыць, што ўзнікненне ў той перыяд у Расіі этнаграфічных і гістарычных музеяў было надзвычай рэдкай з'явай. Іх адкрыццё звязвалася з вялікімі цяжкасцямі. Таму стварэнне і развіццё такога музея сталася значнай падзеяй у культурным жыцці любога горада.

Музей праіснаваў да 1919 г. Пасля яго закрыцця унікальныя экспанаты, што зберагліся, сталі асновай для стварэння Губернскага музея, які потым быў пераўтвораны ў абласны краязнаўчы.

**Уладзімір ГЕРАСІМОВІЧ**
**Фота Алега ФАЙНІЦКАГА**

# “ПРАБЛЕМЫ ЁСЦЬ, АЛЕ...”

***Напрыканцы чэрвеня ў Гродзенскай абласной арганізацыі Беларускага Саюза мастакоў адбыліся пазачарговыя выбары новага старшыні. Замест Мікалая Лук’янава абраны жывапісец Сяргей Асапрылка. Наш карэспандэнт сустрэўся з ім і папрасіў адказаць на некалькі пытанняў.***



**— Сяргей, чым выкліканы пазачарговыя перавыбары старшыні абласнога аддзялення творчага саюза?**

— Прычыны розныя. Адна з галоўных — хранічны недахоп творчых замоваў для сябраў Саюза. На гэтай падставе ўзнікаюць і іншыя праблемы, у тым ліку і маральныя, што датычаць няўстойлівага мікраклімату ў нашым калектыве, а таксама арганізацыйна-творчыя, звязаныя з наладжваннем выстаў і пленэраў...

**— Гэта значыць, што асноўны стратэгічны накірунак у дзейнасці сённяшняга Саюза — пошук мастацкіх замоваў?**

— Менавіта так. Будуць замовы, значыць, знікнуць і пытанні матэрыяльных і маральных страт у нашым творчым асяродку. Шмат што тут залежыць не толькі ад кіраўніка Саюза, але і ад дырэктара камбіната “Мастацтва”. Сёння такі дырэктар ёсць — гэта Сяргей Ермалаевіч Дзям’янаў, якому лёс нашага мастацтва далёка не абыякавы. Вырашэнне гэтай праблемы будзе таксама залежаць і ад мясцовых уладаў, якія могуць спыніць практыку непасрэдных кантактаў замоўцы з мастаком, не праз наш камбінат...

**— Які лёс галерэі “Мадэрн-арт”? Я чуў, што рэспубліканскі Саюз мастакоў на яе рэстаўрацыю ўжо выдаткаваў 50 мільёнаў рублёў?**

— Пазітыўны працэс, як кажуць, ідзе... Неабходна яшчэ мільёнаў трыста. Горад абяцае дапамагчы. Галерэя, якая складаецца з трох залаў — выставачнай, салона-крамы і фае, будзе працаваць на долевых пачатках з рэспубліканскім Саюзам мастакоў.

**— Што яшчэ ўваходзіць у бліжэйшыя планы вашай творчай арганізацыі?**

— Правядзенне ў Гродне і ягоных ваколіцах міжнароднага пленэру жывапісу, прысвечанага юбілею Адама Міцкевіча. Плануем выставы Пятра Янушкевіча, Дзмітрыя Кузняцова, Аляксандра Дулуба, Мікалая Бандарчука, а таксама Мікалая Лук’янава і Уладзіміра Голуба...

**— Некалькі словаў пра сябе, калі ласка.**

— Я скончыў Мінскую мастацкую вучэльню і Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут. Вучыўся ў Бароўкі, Залознага, Свентахоўскага, Данцыга... Потым паехаў у Гродна. Удзельнічаў у розных рэспубліканскіх і замежных выставах, наладзіў чатыры персанальныя выставы, у тым ліку ў Польшчы і Іспаніі. Жонка, Жанна Чыстая, таксама мастачка, мы разам вучыліся, яна — вельмі таленавіты і своеасаблівы жывапісец. Сутнасць маёй творчасці — “спрошчаны рэалізм”, дзе асноўную ролю адыгрываюць лінія і форма колеравай плямы, гэта значыць, мінімальнымі сродкамі я хачу выказаць сваё стаўленне да свету, свае пачуцці і думкі. У гэтым сэнсе мая творчасць у нечым сугучная Ньюмену, Ноланду і Агнесе Мартын...

**— Зразумела. Дзякуй за размову і вялікіх поспехаў у творчай і грамадскай дзейнасці.**

**Гутарыў Барыс КРЭПАК**



У Стоўбцах амаль завершана будаўніцтва капліцы — гэта першы будынак з пяці мяркуемых. Побач будзе стаяць касцёл святого Казіміра. Службы пакуль вядуцца побач у драўлянай хатцы. Але ўжо на Каляды плануецца ўпершыню адчыніць перад вернікамі дзверы капліцы. Таму будаўнікі з ВКФ “Гном” стараюцца, бо і самі яны вернікі. Як прызнаўся майстра Віктар Беланоўскі, працуе ён тут не столькі з-за грошай, колькі з-за жадання прынесці карысць роднаму гораду.

**З.М.**
**Фота аўтара**

## ЗВАРОТ РЭСПУБЛІКАНСКАГА ТАВАРЫСТВА (ФОНДУ) “ЭКАЛАГІЧНАЯ КУЛЬТУРА”

Шаноўныя грамадзяне ўсіх узростаў і веравызнанняў, кіраўнікі і супрацоўнікі арганізацый, прадпрыемстваў і ўстаноў!

З мэтай аздараўлення жывой пакуль прыроды і прыцягнення кожнага разумнага чалавека да дабрачыннай, аздараўленчай, творчай дзейнасці і да развіцця экалагічнай культуры звяртаемся да вас з заклікам выказаць максімальна магчымую актыўнасць і ініцыятыву ў справе збору прыдатных для далейшага памнажэння пладоў і насення каштоўных відаў дзікіх і культурных дрэваў, кустоўя і іншых раслін.

Мы здолеем памножыць багацці планеты Зямля, захаваць здароўе і жыццё кожнага чалавека, вырашыць праблемы духоўнага ўзбагачэння насельніцтва і кожнага чалавека, маральнага адраджэння і выхавання наступных пакаленняў, толькі свядома ўдзельнічаючы ў гэтай працы.

Канкрэтныя дзеянні і рашэнні па аднаўленні расліннага свету з’яўляюцца адным з вытокаў і асноваў узвышэння душы чалавека, зніжэння дэфіцыту экалагічнай культуры, стварэння спрыяльных перадумоваў для збліжэння народаў і іх карыснага супрацоўніцтва.

Выніковасці і поспеху высакародных мэтаў гэтага руху будуць спрыяць асабістыя сустрэчы і абмен меркаваннямі дзеячаў у сферы матэрыяльнай і духоўнай культуры розных дзяржаваў і іхніх аб’яднанняў, правядзенне кангрэсаў, з’ездаў, нарадаў і кансультацый.

Заклікаем усіх узяць удзел у гэтым стваральным руху: ад кожнага з нас залежыць нашая будучыня і будучыня планеты Зямля — ад стаўлення адзін да аднаго і да прыродных багаццяў, ад ладу думак і дзеянняў.

**Галоўны каардынатар РТЭК, прэзідэнт Мінскага навуковага цэнтра таварыства “Экалагічная культура” Мікалай ЦЫБАКОЎ**

# СОНЕЧНЫ ДЖАЗМЕН КУЗНЯЦОЎ І “МІНСК-ДЖАЗ-КВАРТЭТ”

Наколькі разнастайны змест джазавай музыкі, настолькі ж разнастайныя магчымыя формы арганізацыі яе існавання. І калі вы чулі пра які-небудзь джаз-клуб, дык гэта зусім не значыць — мець уяўленне пра тое, што гэта такое: двух аднолькавых клубаў не існуе.

Вось у нас у Мінску ўжо больш за два гады функцыянуе арганізацыя з гучнай назвай “Беларускі Саўнд-Джаз-Клуб”. У першы год дзейнасці ён быў вядомы толькі вельмі абмежаванаму колу людзей, закаханых у джаз і, зазвычай, заможных, што звязана з наладжваннем клубных вечарын у прэстыжных дарагіх рэстаранах. Заможнасць публікі была істотнай і таму, што выступалі на гэтых вечарынах сапраўдныя “зоркі” джаза з блізкага замежжа: Давід Галашчокін, Аляксей Казлоў, Георгій Гаранян, Уладзімір Чакасін, Герман Лук’янаў, Данііл Крамер, Ігар Брыль. Адначасова вяліся здымкі гэтых выступленняў тэлебачаннем, у выніку чаго ў эфіры рэгулярна з’яўляліся перадачы пад назвай “Я люблю джаз”.

Праз год, “раскруціўшыся”, беларускі Саўнд-Джаз-Клуб пашырыў сваю дзейнасць і вырашыў наблізіцца да масавага слухача. З таго часу паралельна з клубнымі вечарамі наладжваюцца і філарманічныя канцэрты, адзін з якіх, адкрываючы новы сезон, адбыўся ў Вялікай зале філармоніі 1 лістапада ў рамках праграмы “Джаз + джаз”.

Самай галоўнай і каларытнай асобай у дзейнасці клуба з’яўляецца, безумоўна, ягоны прэзідэнт Яўген Уладзіміраў, які адначасова ўзначальвае “Мінск-Джаз-Квартэт” (ён суправаджае ўсе клубныя вечары), а ў працэсе выступленняў іграе на трамбоне, фартэпіяна і губным гармоніку. Ён сам робіць канферанс на сваіх канцэртах і прадстаўляе гасцей у тэлепраграмах, больш за тое, ён піша музыку і займаецца арганізатарскай дзейнасцю ў клубе, прыцягваючы спонсараў і распаўсюджваючы квіткі. Але страсць Яўгена — выконваць джаз, і ён справядліва вырашыў, што самая добрая школа ў гэтым працэсе — сумеснае выкананне з лепшымі джазавымі музыкантамі, для чаго, уласна кажучы, ён і стварыў свой клуб.

Яшчэ некалькі гадоў таму “Мінск-Джаз-Квартэт”, які ўзначальваў Яўген Уладзіміраў, лічыўся часткай Дзяржаўнага канцэртнага аркестра РБ, потым аддзяліўся, пачаў шукаць самастойны заробак (па рэстаранах, зразумела) і, нарэшце, выйшаў на “зорны” джазавы шлях. Склад групы мяняўся некалькі разоў і, здаецца, цяпер ён прыйшоў да аптымальнага варыянта гучання, ператварыўшыся, праўда, у квінтэт. Усе музыканты вельмі ўдала дапасуюцца адзін да аднаго, адначасова пераймаючы вопыт у таго, хто на адзін-два канцэрты апынуўся з імі ў адной “звязцы”, а ў музычным свеце вядомы як “зорка джаза”.



*Аляксей Кузняцоў.*

“Гваздом” праграмы 1 лістапада быў Аляксей Кузняцоў, заслужаны артыст Расіі, якога з захапленнем прымалі слухачы Варшавы, Бамбея, Сінгапура, Нью-Ёрка, Джакарты, Мальты. Замежная прэса называе ягоную ігру цудоўнай, расійскія ж СМІ адзінадушна прызналі яго “сонечным артыстам, ад якога распаўсюджваецца святло любові”, а вядомы папулярызатар джаза, музыказнаўца Аляксей Баташоў сцвярджае, што ігра Аляксея Кузняцова — гэта сапраўднае гітарнае баляванне. “Фірменныя” — кузняцоўскія — прыёмы надзвычай разнастайныя: атакі і вібрата, “мазкі” і глісанда. А як цікава “абыходзіўся” гітарыст з акампанементам падчас філарманічнага канцэрта! Сольныя ж кампазіцыі Аляксея Кузняцова, асабліва балады, гучалі надзвычай самадастатковa. А знакамітая “Калыханка” Гершвіна ператварылася ў разгорнутую, амаль сюжэтную кампазіцыю, дзе адна гітара стварыла цэлую паэму яшчэ да таго, як увайшла ў рытмічнае рэчышча.

Два гады таму Аляксей Кузняцоў адзначаў свой юбілей — 30-годдзе творчай дзейнасці і з гэтай нагоды даў інтэрв’ю, урывак з якога я прапаную вашай увазе.

**— Пра вас кажуць, што іграць на гітары і хадзіць вы навучыліся адначасова.**

— Гэта і зразумела, бо мой бацька быў першым джазавым гітарыстам, канцэртмайстрам групы гітар у Дзяржаўным Джаз-аркестры Саюза ССР. Я гадаваўся ў джазавай атмасферы.

**— А дзе вы вучыліся джазу?**

— Я скончыў музычную вучэльню імя Кастрычніцкай рэвалюцыі па класе домры. Ігру на джазавай гітары ў тыя часы не выкладалі.

**— Усе адзначаюць ваш талент акампаніятара. Ці доўга вам давялося выступаць у гэтай ролі?**

— Да канца 70-х гадоў. І толькі ў 80-я гады я атрымаў магчымасць сам збіраць свае калектывы і пачаў выступаць як саліст. Паступова я пачаў спалучаць музычныя ідэі з тэхнікай выканання. Маючы вялікі вопыт ігры — ад інструментальнага квартэта да вялікага аркестра, я прыйшоў да высновы, якую доўга шукаў. Мяркую, што вынікам гэтага працяглага пошуку стала мая апрацоўка “Калыханкі” Гершвіна.

**— Сёння спецыялісты сцвярджаюць, што вы ў нас адзіны джазавы гітарыст, хто ў стане без падтрымкі даць паўнавартасны канцэрт.**

— Гэта гучыць, безумоўна, прыемна. Але я не менш цікавым для сябе лічу і ўдзел у джазавых дуэтах: гітара —бас-гітара, гітара — кантрабас. Гэта вельмі цікавая форма ўзаемадзеяння. Я люблю выступаць у музычнай праграме “Аляксей Кузняцоў і ягоныя сябры”, канцэртах-джэмах, бо мне, наогул, падабаецца працаваць у кампаніі.

**— У 1994 годзе была выдадзена ваша кніга “З практыкі джазавага гітарыста”. Што падштурхнула вас да яе стварэння?**

— Жаданне падзяліцца сакрэтамі назапашанага майстэрства. У нас жа асноўным падручнікам для гітарыстаў-пачаткоўцаў з’яўляецца “Самавучыцель”. Вось я і напісаў гэтую кніжку як практычныя ўрокі для джазавага гітарыста... Але мне б хацелася параіць тым, хто сур’ёзна мяркуе прысвяціць сябе джазу: больш слухайце, не палохайцеся напачатку капіраваць, больш іграйце, увасабляючы свае ідэі, і... рызыкуйце!

**Ганна АЛАДАВА**
**Фота Жанны МАЁРАВАЙ**

**Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь смуткуе з прычыны смерці вядомага дзеяча аматарскага харэаграфічнага мастацтва Беларусі Івана Арцёмавіча СЕРЫКАВА і выказвае глыбокае спачуванне родным і блізкім нябожчыка.**

# РАРЫТЭТ, АБКЛАДЗЕНЫ ПАДАТКАМ

***Як ужо паведамляла наша газета, распачаўся XXIV Міжнародны фестываль мастацтваў "Беларуская музычная восень", прысвечаны 60-годдзю Беларускай Дзяржаўнай філармоніі. А зазвычай вялікае свята патрабуе вялікіх выдаткаў. Пазнаёміць чытача з другім, "непарадным" бокам фестывальных мерапрыемстваў мы папрасілі дырэктара Беларускай Дзяржаўнай філармоніі Уладзіміра Пятровіча РАТАБЫЛЬСКАГА.***

**— Уладзімір Пятровіч, як на ваш погляд, ці змогуць усе жадаючыя патрапіць на фестывальныя канцэрты? Які кошт білетаў?**

— Кошт білетаў мы не перакладваем на кішэню тых, хто прыйдзе на нашы канцэрты. Адзначаем юбілей філармоніі, дзякуючы фінансавай падтрымцы Міністэрства культуры. Нават на канцэрты Юрыя Башмета — а ён са сваім калектывам хутка наведае нас. Той, хто захоча, зможа прыйсці: кошт білетаў ад 100 да 250 тысяч рублёў.

**— Да юбілейнага сезона вы рыхтаваліся загадзя. Летам дый яшчэ ў верасні ў будынку філармоніі прайшоў рамонт.**

— Так, пры падтрымцы Міністэрства культуры мы крыху "паскраблі вуглы". Асабліва гэта заўважна, калі зараз зайсці ў канцэртную залу — яна цалкам адрамантавана. Канешне — гэта вялікія фінансавыя выдаткі.

**— Колькі прыкладна гэта каштавала?**

— На рамонт — два з палавай мільярда і прыкладна столькі ж на правядзенне фестывалю. Трэба адзначыць, што Міністэрства культуры вельмі спагадліва ставіцца да нас, без яго правядзенне фестывалю было б немагчымым.

**— Хто ваш непасрэдны куратар ад Міністэрства культуры?**

— Намеснік міністра Уладзімір Пятровіч Рылатка, але і сам міністр культуры Аляксандр Уладзіміравіч Сасноўскі вельмі зацікаўлена ставіцца да нас. Калі аналізаваць тыя канцэртныя афішы XXIV фестывалю, то падрыхтавана вельмі цікавая праграма.

**— Якія праблемы ў вас узніклі, калі распачаўся юбілейны сезон?**

— Ёсць шмат праблем, звязаных з гастролямі замежных калектываў. І гэтыя праблемы — фінансавага кшталту. Фестываль, што зараз распачаўся, мае адзінага дзяржаўнага фундатара — Міністэрства культуры. Ёсць невялікая прыватная спонсарская дапамога, але яна зусім нязначная. Нашы спонсары ўжо не жадаюць "свяціцца" на афішах: калі ўказваецца імя фундатара, то назаўтра ў яго дзверы абавязкова пагрукае падатковая інспекцыя. І ў дадзеным выпадку нашых фундатараў трэба разумець! А вось Японія апошнім часам пераўтваралася ў музей-краіну, бо ў іх грошы, што патрачаны на рарытэты, не абкладаюцца падаткамі. Японцы ведаюць, што робяць. А ў нас, калі ўжо фундатарская дапамога аказана, то адразу "ўключаецца" падатковая служба.

**— Ці адладжаны фінансавы механізм выезду нашых калектываў на гастролі ў замежжа?**

— Калі мы накіроўваем свае калектывы за мяжу, то нам ствараюць умовы і мы ніколі не трацім свае сродкі. Насамрэч у цывілізаваных умовах культурны абмен суправаджаецца датацыямі з аднаго і з другога боку, але, на жаль, мы не можам выдзеліць сродкі на гастрольныя паездкі нашых калектываў у замежжа.

**— А на якія сродкі праводзяцца гастрольныя паездкі па Беларусі?**

— Тут узнікаюць пэўныя складанасці. Напрыклад, нам цяжка праводзіць гастролі сімфанічнага аркестра па рэспубліцы, бо даводзіцца несці выдаткі на транспарт, сутачныя, аплаціць калектыву гасцініцу. І ў такія гэта выліваецца сумы, што нам не па сілах іх аплаціць. Калі сімфанічны аркестр падрыхтаваў добрую праграму, то яе трэба паказаць і ў абласных гарадах... Але такая праграма, умоўна кажучы, — "штучны тавар". Адзін раз адыграў на горад Мінск, — і трэба рыхтаваць новую. У адрозненне ад эстрадных калектываў, якія на адной праграме і ў пенсію "ўехаць" могуць. Харавая капэла, камерны хор і аркестр калі-некалі яшчэ выязджаюць на гастролі па Беларусі, а хацелася вельмі, каб адрадзіліся старыя традыцыі — фестываль сімфанічнай музыкі, які ў былыя часы праводзіўся кожнае лета, калі сімфанічны аркестр даваў трыццаць канцэртаў у абласцях рэспублікі. Але пакуль што, у дадзеных фінансавых варунках, пра гэта мы толькі марым...

**— Відаць, вашыя праблемы не чужыя нашым уладам і, па магчымасці, вам будуць дапамагаць у аднаўленні добрых традыцый філармоніі?**

— Калі б выконваўся закон аб культуры, дзе прадугледжваецца 3 — 4 працэнты ад бюджэту накіроўваць непасрэдна ў сферу культуры, то, пэўна, менш бы затрачвалася сродкаў для выкарanення хібаў у выхаванні людзей. Агульнавядома, што працэй укласці сродкі ў выхаванне людзей, чым пазней — у перавыхаванне, працэй выхаваць адразу, чым перавыхоўваць пасля. А наша справа, якой мы займаемся непасрэдна, якраз аказвае найбольшае ўздзеянне на чалавека, на яго душу...

Гутарыла
**Алена РЫГОРАВА**

21 лістапада ў канцэртнай зале філармоніі адбыўся ўрачысты вечар, прысвечаны 60-гадоваму юбілею Дзяржаўнай філармоніі. На пачатку канцэрта з віншавальным словам выступіў міністр культуры Аляксандр Сасноўскі. У праграме вечара прынялі ўдзел не толькі беларускія знаныя калектывы: Акадэмічны хор і аркестр Беларускай акадэміі музыкі, камерны дзяржаўны хор Рэспублікі Беларусь, Дзяржаўны акадэмічны сімфанічны аркестр, але і нашы вядомыя госці з замежжа, якія прыехалі, каб прыняць запрашэнне ў юбілейным сезоне: скрыпачка з Аўстрыі Дора Шварцберг, віяланчэліст з Францыі Марк Драбінскі, спявачка з Санкт-Пецярбурга Вольга Пчалінцана і інш.

**А.Р.**

**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**

# У ПРАГРАМЕ



*Дора Шварцберг.*

# Віктар ВОЙЦІК: "КАБ НЕ ДУЦЬ У АГУЛЬНУЮ ДУДУ..."

***Трыццаць гадоў творчай дзейнасці кампазітара — гэта многа ці мала? Для Віктара Войціка гэта і многа, мяркуючы па тым, што ўжо зроблена, які значны яго ўнёсак у беларускую музычную культуру, але ў той жа час — гэта і мала, таму што наперадзе ўвасабленне новых творчых задум.***

**— Віктар Антонавіч, вы плённа працуеце ў розных жанрах: і ў сімфанічным, і камерна-інструментальным, ёсць у вас і тэатральная музыка. Якая найбольш адпавядае вам, вашаму ўнутранаму свету?**

— Камерная. Ствараючы яе, я не адчуваю ніякіх перашкод, тут мне лёгка дыхаецца, тут я "лёгка плыву". Калі гаварыць пра стварэнне вялікага сімфанічнага твора, то яно патрабуе асаблівага паглыблення ў тэму і на доўгі час. А калі ўжо з'явілася задума такога твора, то патрэбны час, каб яна выспела — гэты працэс прыспешваць нельга. Часам бывае, што напісанне сімфанічнага твора адбываецца хутка, а здараецца, што гэты перыяд зацягваецца, і ты ўвесь час знаходзішся ў гэтай напружанасці, у творчым стане. Бо ў творцы, нават калі ён і спіць, дык гэта праца ўсё роўна ідзе.

**— Ці даводзілася вам пісаць музыку не па натхненні, а "на заказ"?**

— Рэч у тым, што заказ можа быць розны. Для мяне, напрыклад, ён не выражаецца ў тым, што нехта прыйшоў і сказаў: вось пішы мне акурат такую музыку. Але між тым, калі я пішу для камернага аркестра, я ведаю, які слухач прыйдзе на гэты твор: прынамсі гэта будзе вытанчаны слухач, які мае цягу да музыкі барока — Вівальдзі, Пергалезі, Чымароза і г.д. І публіка гэтая будзе мець пэўны эстэтычны густ. Другім разам, калі пішу музыку для цымбал, таксама магу прадбачыць, які слухач прыйдзе на яе...

**— Вам дапамагае творчая інтуіцыя?**

— Не толькі яна, мне вельмі дапамагае тое, што я магу ўявіць, як прагучыць пэўная музычная фраза ў выкананні таго ці іншага спевака. Дарэчы, хачу сказаць, што ў музыцы, як і ў любым мастацтве, існуе дэтэрмінізм, пэўная прадвызначанасць. Прыгадаю такі выпадак з маёй араторыяй "Памяць Хатыні". Калі працаваў над ёй, канешне ж, выязджаў туды, сустракаўся з Камінскім, і твор атрымаўся ў пэўным эмацыянальным ключы і быў запісаны на радыё. І што цікава: тры гады таму да нас у Мінск прыехаў кубінскі кампазітар, ён наведаў Хатынь і пасля напісаў твор, таксама прысвечаны гэтай тэме, і паслаў на радыё.

І вось аднойчы слухаю я радыё, чую знаёмую музыку і не магу пазнаць: мая ці не мая? Адны і тыя ж выкарыстаны прыёмы, у тым жа эмацыянальным ключы. Даслухаў да канца, нарэшце дыктар паведамляе: "Вы слухалі араторыю "Хатынь" кубінскага кампазітара"...



**— Як, на вашу думку, залежыць лёс музычнага твора ад яго першага выканання?**

— Ад выканання ўвогуле вельмі многа залежыць. Быў аднойчы ў мяне такі казус. Я напісаў канцэрт для камернага аркестра, разлічваючы, што выканаўцаў будзе 15. Вырашылі гэты твор сыграць вялікім сімфанічным аркестрам, але без духавога. Igралі 40 чалавек. Вынік быў нечаканы: уражанне ад выканання было такое, быццам у лёгкую бегавую фурманку запрэглі цяжкавоза...

Быў яшчэ выпадак: таксама першае выкананне аднаго майго твора. Мала было рэпетыцый, і пасля выканання знаёмыя падыходзілі да мяне, спагадліва пацiскалі руку, маўляў, бываюць і няўдачы. Але я з гэтым не змірыўся. І калі надарылася магчымасць, я настаяў, каб зноў выканалі твор. Мне адразу запярэчылі: "Не,гэты твор мы ўжо чулі!" Я аргументаваў сваё патрабаванне тым, што гэта новая рэдакцыя былога твора. Сам жа не змяніў ніводнай ноты! Якраз прыйшоў другі дырыжор — Генадзь Праваторaў, і гэты твор атрымаў зусім іншае гучанне. І вось калі зноў прагучаў гэты ж твор, падыходзілі тыя ж знаёмыя і казалі: "Якую добрую рэдакцыю ты зрабіў! Гэта так добра цяпер прагучала!" А рэдакцыі ж ніякай не было, была ўсяго толькі другая выканальніцкая інтэрпрэтацыя!

**— Ці ёсць у вас творы "закрытыя" — напісаныя, але якія яшчэ чакаюць свайго выканання?**

— Такія творы ў мяне ёсць. Яны яшчэ чакаюць свайго сцэнічнага ўвасаблення, не трапілі ў свой час выканаўцам.

**— І шмат такіх твораў у вас?**

— Няшмат, але ёсць. Надаралася, што іх браліся выконваць, але потым па нейкіх прычынах выкананне адкладалася, між тым творы гэтыя гублялі сваю надзённасць, музычны твор можа з часам маральна і інтанацыйна састарэць. Прынамсі зараз у мяне ўжо тры гады ляжаць партытуры: вакальна-сімфанічны цыкл на вершы Міхаіла Ясеня з чатырох баладаў. Адна з гэтых баладаў ужо прагучала ў выкананні Дзяржаўнага сімфанічнага аркестра, тры яшчэ чакаюць свайго часу. Рэч у тым, што 50-годдзе вызвалення ўжо мінулася і попыту на гэтую тэму ў бліжэйшы час можа і не быць. А мне здаецца, што музыка гэта па-сапраўднаму кранае.

Увогуле праца над музычным творам можа доўжыцца дзесяцігоддзямі. Раскажу, як стваралася мая кантата на вершы Максіма Багдановіча "Як хадзіў камар сватацца". Пачынаў над ёй працу яшчэ ў класе Багатырова, але так сталася, што скончыў кансерваторыю сімфоніяй. Кантата ж на той час была ў эскізначарнавым варыянце. І вось у 82-м годзе я зноў вярнуўся да яе і канчаткова яе дарабіў і тады ж аддаў яе Віктару Роўду. Прайшло аж 15 гадоў, неяк у 1997 годзе падыходзіць да мяне Роўда і кажа: "Паглядзеў тваю партытуру, што ў мяне ляжала, будзем рэпеціраваць".

**— Доўга ж ляжала, за 15 гадоў добра адляжалася!**

— І вось у сакавіку гэтага года пачаліся рэпетыцыі, а ў маі былі запісаны на радыё чатыры часткі.

**— Вы, відаць, бываеце ў замежных творчых камандзіроўках. Як успрымаюць беларускую музычную культуру ў свеце?**

— Мне даволі часта даводзілася бываць у замежжы: у свой час быў у Чэхіі з мэтай азнаямлення з іх музычнай культурай, таксама быў у Польшчы некалькі разоў, удалося пабываць і на Варшаўскай музычнай восені. Выснова мая такая: наша музычная культура развіваецца ў агульнаеўрапейскім рэчышчы, а ў некаторых сваіх праявах нават вышэй. Што датычыць музычнай адукацыі, то я павінен сказаць, што ў нас справа пастаўлена значна лепш, у нас стараюцца даць яе больш-менш усім. Там, за мяжой не займаюцца гэтым так усур'ёз: прафесія гэта вельмі складаная і далёка не кожны захоча яе асвойваць. У нас жа існуе ў гэтым плане добрая дзяржаўная падтрымка, не ведаю, як далей будзе, але пакуль што яна ёсць. Але вось што паказальна: у нас апошнім часам на кафедры ў кансерваторыі адны дзяўчаты. Раней такога не было.

**— Фемінізацыя ў музыцы?**

— Не, думаю што прафесія губляе свой прэстыж, заробкі вельмі нізкія, ніякай перспектывы жыць большменш забяспечана. Але ж творчаму чалавеку перакваліфікавацца вельмі цяжка, амаль немагчыма, незалежна ад таго — плацяць яму ці не.

**— Пытанне належнай аплаты творчай працы — адно з самых балючых на сённяшні дзень.**

— Для прыкладу: кампазітар можа напісаць партытуру музычнага твора, а за яго працу яму заплацяць столькі, колькі перапісчыку за тое, што ён усяго толькі перапіша гэтую партытуру начыста.

Ва ўсім свеце ўжо даўно плацяць грошы кампазітару, калі яго музыка гучыць на радыё і тэлебачанні, а ў нас, у нашай дзяржаве яшчэ самому трэба заплаціць, каб арганізаваць выступленне. І самае дзіўнае, што існуе закон аб ахове аўтарскага права. Паводле закону так рабіць нельга, а па-за законам узнікае вось такая сітуацыя: на пачатку 97-га года ўсе нашы кампазітары далі расціску, што не будуць патрабаваць ганарары, калі іх музыку будуць выкарыстоўваць на радыё.



*Віктар Роўда.*

# — ЮБІЛЕЙ



*Марк Драбінскі.*

**— Атрымліваецца нешта абсурднае — вы самі наперад адмовіліся ад аплаты сваёй працы?**

— Нам быў пастаўлены ультыматум: выбірайце, альбо ваша музыка на радыё зусім гучаць не будзе, альбо будзе, але без ганарараў, маўляў, нам няма адкуль узяць грошы, каб заплаціць. Калі не згодны, абыдземся і без вашай музыкі, будзем знаходзіць такую, за якую плаціць не трэба.

**— І на які тэрмін вы далі такую распіску?**

— Да канца 97-га года, не ведаю, як гэта пытанне будзе вырашацца ў 98-м. Не так даўно я быў у Маскве, у СК там такія ж праблемы, як і ў нас. Калісьці у нас была агульная гаспадарка, дамы творчасці Саюза кампазітараў былога СССР будаваліся па ўсім Саюзе, канешне ж бліжэй да мора — у Грузіі, Арменіі, Казахстане, Прыбалтыцы.

А на тэрыторыі Расіі цяпер засталіся толькі тры дамы творчасці, яны патрабуюць рамонту, бо першая пабудова прыпадае на 47-ы год. А ў нас дом творчасці СК у Астрашыцкім гарадку яшчэ і недабудаваны... Так усё замарожана, няма гаспадара, ні дзяржава не бярэцца давесці яго да ладу, ні ў нас не знаходзіцца магчымасцяў.

Я прапанаваў маім маскоўскім калегам правесці разам дабрачынную мясцовую акцыю на карысць СК і арганізаваць яе наступным чынам: вы набіраеце сваіх артыстаў, мы робім ім належны прыём, знаходзім вялікую залу, а збор ад гэтых канцэртаў пойдзе ў падтрымку нашага саюза. А мы ў сваю чаргу прышлем нашых артыстаў да вас, а збор пойдзе на карысць СК Расіі, маўляў, калі самі сябе не падтрымаем, хто ж нас падтрымае? А мяне і пытаюцца: хто ж у вашым фондзе будзе выступаць бясплатна? Я і кажу, што я ў сябе такіх магу знайсці, а хто будзе выступаць ад вас? Хаця ў вас, відаць, праблемы такой не павінна быць — у вас на Краснай плошчы выступае Растраповіч. І тут яны разам шумна ўздыхнулі: "Ах, каб вы ведалі, колькі нам каштавала гэтае яго выступленне! Колькі гэта каштавала ўсёй Маскве, колькі каштавала Лужкову! Хаця Растраповіч чалавек і забяспечаны, але ён перайшоў на заходні лад жыцця, дзе за кожны крок трэба заплаціць, задарма нічога рабіць не будзе.

**— Віктар Антонавіч, вы доўгі час былі на пасадзе сакратара СК, пазней — намесніка старшыні праўлення, зараз узначальваеце аўтарскі фонд Саюза кампазітараў. Добра ведаючы з сярэдзіны праблемы творчага саюза, вы, відаць, шукалі і шукаеце "шляхі" выжывання музычнай культуры ў сённяшніх складаных умовах?**

— Ёсць такая "форма выжывання", прыдатная хутчэй для маладых кампазітараў, прыкладнна да 35 гадоў. Міжнародныя музычныя супольнасці, таварыствы зараз арганізуюць конкурсы з прэміяльным фондам, і там яны атрымліваюць добрыя прэміі. Але ёсць тут пэўная небяспека: кожны арганізатар конкурсу мае свой эстэтычны погляд, густ, і каб спадабацца там і прыйсці "да лаўраў", трэба пісаць музыку "паводле густу" кіраўніка конкурсу, таго, хто "яе заказвае". Тут ужо думаць пра родныя мясціны, пра сваю музычную школу, пра сваю нацыянальную адметнасць не даводзіцца. Трэба дуць у агульную дуду. А ўсё ж такі культура — гэта не агульнаеўрапейскі дом, найперш яна — нацыянальная, мае сваю выразную нацыянальную адметнасць. Гэта маё перакананне, мая пазіцыя. У нас склалася свая адметная школа і гэта трэба берагчы і цаніць.

**Кампазітара слухала Алена РЫГОРАВА**
**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**

## *Алег ЗАЛЁТНЕЎ:*
# "СТВАРЫЦЬ СВОЙ СТЫЛЬ..."

***Кожны твор Алега Залётнева — падзея ў музычным жыцці краіны. Прыгадаем драматычную араторыю "Лісткі календара" — падчас прэм'еры якой вершы чытаў сам аўтар — Максім Танк; канцэрт для ўдарных "Credo", нарэшце — "Літургію Іаана Залатавуста"... Творы кампазітара Алега Залётнева часта гучаць па радыё, ён аўтар музыкі да шматлікіх тэатральных пастановак, працаваў і ў беларускім кінематографе. Алег Залётнеў — сябра ажно чатырох творчых саюзаў: Саюза кампазітараў, Саюза тэатральных дзеячаў, Саюза музычных дзеячаў і Саюза кінематаграфістаў. Працуе таксама на беларускім радыё, стала супрацоўнічае з маладзечанскім абласным драматычным тэатрам, да таго ж яшчэ выкладае ў Беларускай акадэміі мастацтваў...***

**— Нядаўна вы адзначылі свой 50-гадовы юбілей. Па вашым унутраным адчуванні 50 — гэта "ўжо" ці "яшчэ"? І калі казаць пра творчасць, дзе яе больш — засталося ззаду ці бачыце наперадзе?**

— Я думаў, што пастаўлюся да гэтай лічбы — 50 — больш лёгка, можа, нават больш радасна. Але яна, шчыра кажучы, асаблівага задавальнення мне не прынесла... А з іншага боку — па-сваім унутраным адчуванні я такі ж самы, як і ў 25, і ў 30... Здараецца, і сябры кажуць: будзь больш паважным, ты ж —кампазітар. Што да творчасці... Хацелася б думаць, канешне, што там, ззаду, засталося менш, а не больш, чым наперадзе.

**— Над чым працуеце зараз, чым у бліжэйшы час парадуеце сваіх прыхільнікаў?**

— Працую над балетам, пакуль што ён мае рабочую назву "Акно". Лібрэта для яго напісала Юлія Чурко. Гэта не першая сумесная работа, мы з ёю ужо зрабілі адзін балет —"Кругабег". Але ў адрозненне ад "Кругабегу", у аснову якога былі пакладзены беларускія народныя балады, у гэтым балеце — лібрэта арыгінальнае. Тэма "Акна" — мастак і час, мастак і натоўп. Тэма, вядома, не новая, яна хвалявала многіх творцаў. Але асаблівасць нашага падыходу да яе ў тым, што ў аснову сюжэта пакладзены жыццё і творчасць мастакоў віцебскай школы — Малевіча, Дабужынскага і Шагала. У першым акце дзея адбываецца ў Віцебску, у другім — у Санкт-Пецярбургу, у трэцім — у Парыжы. Мы імкнемся паказаць тры стадыі жыцця мастака: малады, яшчэ нікому не вядомы, потым — дарослы, але пакуль не дасягнуў прызнання, і напрыканцы — ужо сталы, паважаны і славуты, але яму ўжо не патрэбная слава...

**— Вы працавалі ледзь не ва ўсіх магчымых жанрах. Ці засталася нейкая нязведаная для вас галіна, у якой хацелі б паспрабаваць сябе?**

— Опера. Але пакуль што я шукаю "сваю" тэму, чакаю яе. Напісаць сапраўды добрую оперу вельмі складана.

**— Колькі часу патрабуе праца над музычным творам? Ці здараецца, што нейкі твор ляжыць у вас у шуфлядзе і чакае, пакуль вы яго скончыце?**

— "Літургію Іаана Залатавуста" я ў 1994 годзе напісаў за месяц. Але бывае, што нешта і ляжыць. Надараюцца абставіны, якія могуць "перабіць" працу. Не сакрэт, што сёння мастацтва знаходзіцца на, так бы мовіць, "паўгалодным пайку". А мастаку ж трэба і самому есці, і сям'ю карміць... І часам ты мусіш пісаць музыку не тую, якую хацеў бы, на якую "настроены". Я амаль 10 гадоў быў "вольным мастаком". Меў добрыя ганарары — і мне хапала іх на жыццё. Але ж сёння адных ганарараў недастаткова. Прычым якраз мне, здавалася б, нельга скардзіцца. Я не той кампазітар, якога "не купляюць". І я не той кампазітар, якому не заказваюць. Заказаў хапае — не хапае грошай... І ў рэшце рэшт нейкія "глабальныя" рэчы, дзеля якіх ты, магчыма, і на свет нарадзіўся, застануцца нерэалізаванымі.



**— Як на вашу думку, ці ва ўсіх стылях і напрамках вы працуеце з аднолькавай лёгкасцю і поспехам?**

— Зараз я крыху пакакетнічаю, як жанчына. Ніводная жанчына не скажа, што ў яе фігуры ёсць хібы. Яна іх ведае, але не прызнаецца. Вось і я таксама не хацеў бы прызнавацца ў нейкіх сваіх слабасцях.

Наогул, я кампазітар не "любімай тэмы", "любімага жанру", у мяне гэтага няма. Дакладней, я да гэтага не імкнуся...

**— Калі вы збіраецеся ўпершыню пачуць свой твор у выкананні хору, аркестра, перад вялікай аўдыторыяй — вас гэта хвалюе?**

— Заўсёды і вельмі. Ведаеце, мяне непакоіць не тое, як будзе ўспрымаць мой твор публіка. Мяне хвалюе, як гэта прагучыць. Ці здолеюць музыканты сыграць так, як я хацеў бы...

**— Зараз Беларуская філармонія адзначае 60-гадовы юбілей. Як вы ставіцеся да нашай галоўнай філарманічнай сцэны?**

— Я памятаю тыя лепшыя часы, калі на падыходзе да філармоніі прасілі лішні білецік. Няма віны філармоніі ў тым, што зараз больш ахвотна ходзяць на "папсовыя" канцэрты, чым на канцэрты сур'ёзнай музыкі. Гэта не змяншае яе значэння. Сёння ўсёй нашай культуры вельмі цяжка. У пошуках лепшага жыцця музыканты пачалі пакідаць і філармонію, і оперны тэатр. Добрыя музыканты... Запрасіць да нас вядомага гастралёра — каштуе вялікіх грошай. Канешне, крыўдна, калі да свайго юбілею даводзіцца прыходзіць... у стаптаных ботах. Але самае крыўднае тое, што сёння ў зале мала публікі. Людзі так занятыя пошукамі хлеба надзённага, што ім не да мастацтва. Яны яго быццам "адклалі на потым". А "потым" нічога ніколі не бывае... Але ва ўсякім разе мы, музыканты, сваю філармонію любім і на канцэрты ходзім.

**— Якую музыку ўвогуле любіце слухаць?**

— Самую розную. Мне шмат што падабаецца. Люблю музыку, як і жыццё, ва ўсіх іх праявах. Я часта выбіраю музыку ў залежнасці ад таго, над чым зараз працую...

**— ... Каб знайсці нешта карыснае для сваёй працы?**

— Так, гэта ж натуральна. Увогуле ўсе тэмы былі распрацаваныя яшчэ да Шэкспіра. Усе! У свеце налічваецца адзін ці, можа, за два дзесяткі сюжэтаў, якія прынцыпова адрозніваюцца адзін ад аднаго. Усё астатняе — гэта варыяцыі. У музыцы тое ж самае. Усё ўжо было: і развіццё танальнасці, і яе разбурэнне... Мне здаецца, зараз, каб стварыць нешта новае, трэба шукаць менавіта на сумежжы жанраў, на сумежжы відаў мастацтва. А я хацеў бы ствараць нешта новае, свой стыль. Мне здаецца, што гэта вышэйшая мэта творчасці — стварыць свой стыль.

**— Як нарадзілася "Літургія Іаана Залатавуста"?**

— Калі я распачаў працу над "Літургіяй" і вывучаў матэрыялы, якія мелі да яе дачыненне, я зразумеў, што для таго, каб пазнаёміцца з такім вялізным аб'ёмам матэрыялу, каб апрацаваць столькі інфармацыі, мне проста не хопіць жыцця. І тады я вырашыў пайсці зусім іншым шляхам: шляхам інтуіцыі. Гэта значыць, я пісаў так, як адчуваў.

Пазней англійскі даследчык беларускай музыкі Гай Пікарда пераклаў некаторыя часткі "Літургіі" на беларускую мову і ўключыў у сваю "Анталогію беларускай духоўнай музыкі", якую выдае Лонданскі цэнтр імя Францішка Скарыны.

**— Дарэчы, як вы ставіцеся да пранікнення рок-музыкі ў музыку акадэмічную?**

— Як да нейкага элемента — добра. Але ўвогуле да рока як да культуры я стаўлюся дастаткова негатыўна. Для таго, каб выявіць, падкрэсліць нейкія агрэсіўныя моманты ў творы, дзеля кантрасту з супрацьлегым, — часам і сам выкарыстоўваю. І дзеля гэтай мэты нічога лепшага за рок не знайсці.

**— Сярод усіх вашых шматлікіх твораў ці ёсць у вас, так бы мовіць, "любімае дзіця"?**

— Давайце запытаем у мнагадзетнай маці, якое дзіця ў яе...

**— А ўсё ж такі?**

— Ну, напэўна, самае малодшае... Адно з маіх малодшых — гэта "Нясвіжская меса". 30 кастрычніка адбылася яе мінская прэм'ера ў Камернай зале — у касцёле Святога Роха. Выконваць яе будзе хор і аркестр "Sonorus" (дырыжор Аляксей Шут), які выконваў "Літургію". Меса ўжо гучала 1 мая ў Нясвіжы на фестывалі камернай музыкі. Асновай для яе сталіся рукапісы, якія знайшлі Адам Мальдзіс і Тамара Ліхач. Належалі рукапісы манаху Шымкевічу з нясвіжскага манастыра. Натуральна, з гэтым матэрыялам давялося шмат і сур'ёзна працаваць. Недзе я мусіў усё цалкам перарабляць, нешта выкідаць і пісаць сваё. Трэба было надаць твору агульную гармонію, распрацаваць партыі інструментаў у аркестры, дадаць другі голас. Манастырская меса была разлічана на чатырохгадзіннае набажэнства: там было шмат розных паўтораў, увогуле не было дакладна акрэсленай структуры. Я з гэтага зрабіў канцэртны твор. Гэтая праца сталася для мяне больш складанай, чым калі б я пісаў арыгінальную музыку. Бо тады маю творчую фантазію нішто не стрымлівала б. Нажаль, пакуль я быў даволі абмежаваны...

**— Але вернемся з нябёсаў на грэшную зямлю... Як вы звычайна бавіце вольны час? Ці ёсць у вас нейкае хобі?**

— Нейкага асаблівага хобі няма. Вольнага часу ў мяне няшмат. Але люблю і па грыбы схадзіць, і на рыбу. Ці ўзяць заплечнік і з добрай кампаніяй рушыць у вандроўку. Магу нават нешта змайстраваць для дому...

**— Дарэчы, ці праўда, што вы калісьці нейкі час працавалі сталяром?**

— Было такое, яшчэ да таго, як я прыйшоў на радыё. Гэта быў вымушаны крок. Але я не саромеюся гэтай старонкі маёй біяграфіі. Мне трэба было неяк зарабляць. Пайшоў параіцца да сябра. Ён запытаў: сталяром пойдзеш? Я кажу — пайду. Ведаеце булачную на Плошчы Перамогі? Як заходзіш — праваруч маленькая кавярня. Там ёсць каса. Дык вось, гэтую касу зрабіла мая брыгада...

**Гаворку вяла Марыя ГРАМЫКА, студэнтка 3-га курса факультэта журналістыкі**
**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**

ДА 200-ГОДДЗЯ АДАМА МІЦКЕВІЧА: ПАЭТ І ЯГО ЭПОХА

# НІХТО І НІКОЛІ ЛЕПШ ЗА БАНОЛЬДЗІ...

Як часта побач з вялікім майстрам-кампазітарам мы бачым імя вялікага майстра-выканаўцы. Бывае, выканаўцы раней за астатніх разумеюць і горача падтрымліваюць талент кампазітара. Успомнім: побач з Францам Шубертам стаіць імя Ёзефа Фогля, побач з Міхаілам Глінкам стаяць імёны Восіпа Пятрова і Таццяны Вараб'ёвай. Так было здаўна. У гісторыі мастацтва XX стагоддзя такой найбольш паказальнай бачыцца садружнасць Бенджаміна Брытэна з Пітэрам Пірсам.

У гісторыі беларускага мастацтва, безумоўна, першым з зафіксаваных прыкладаў такой садружнасці з'яўляецца супрацоўніцтва кампазітара Міхала Клеафаса Агінскага з італьянскім спеваком і кампазі-


Малюнак XIX ст. (за раялем С.Манюшка).

тарам Паліяні, які доўга жыў у Залессі і, бясспрэчна, быў першым выканаўцам вакальных твораў Арфея "Паўночных Афінаў".

Аднак, калі супрацоўніцтва Агінскага і Паліяні не выйшла за межы сядзібасалонных вечарын, дык крыху пазнейшае па часе творчае супрацоўніцтва другога італьянскага спевака Ахілеса Юзафа (менавіта так звалі яго ў нашым краі) Банольдзі (1821-1871) з беларускімі кампазітарамі сярэдзіны XIX стагоддзя — Станіславам Манюшкам і Фларыянам Міладоўскім — мела зусім іншы характар.

Сын "аднаго з самых славутых спевакоў часоў Расіні", па вызначэнні С.Манюшкі, італьянец па паходжанні, нарадзіўся ў Іспаніі, у Барселоне. Адукацыю атрымаў у Лазанскім універсітэце (Швейцарыя), пасля заканчэння якога выбраў кар'еру музыканта. Вакальныя навыкі, трэба думаць, Ахілес набыў пад кіраўніцтвам бацькі, а майстэрства ігры на фартэпіяна спасцігаў пад кіраўніцтвам ні больш, ні менш, Ферэнца Ліста.

Дваццацігадовым юнаком у 1842 годзе ён трапіў у Вільню, дзе захапіўся не толькі самім горадам, але яшчэ закахаўся ў мясцовую дзяўчыну Леакадзію Багнеўскую, якая таксама пакахала прыгожага італьянца. Калі яны неўзабаве пажаніліся, здавалася, Ахілес застанецца ў Вільні назаўсёды. Хутка ён авалодаў мясцовай гаворкай і ўключыўся ў музычнае жыццё беларускай краёвай сталіцы. Зарабляў тым, што выкладаў музычныя прамудрасці слухачам Віленскага шляхетнага інстытута, а ў вольны час спяваў, спяваў... У асноўным гэта былі творы Манюшкі і іншых мясцовых кампазітараў.

У канцы 1857 года, напярэдадні пераезду ў Варшаву Станіслава Манюшкі, віленскія прыхільнікі яго таленту арганізавалі канцэрт у гонар кампазітара. "У праграму канцэрта быў уключаны "Лірнік вясковы" на верш Уладзіслава Сыракомлі. Песню выконваў тады Ахілес Банольдзі, вакальную культуру якога кампазітар ставіў вельмі высока. Яшчэ ў лютым 1849 года, даючы аўтарскія канцэрты ў Пецярбургу, Манюшка звязваў свае надзеі на поспех з выканальніцкай манерай Банольдзі. І поспех прыйшоў, нягледзячы на тое, што імя віленскага кампазітара ў Пецярбургу ведалі толькі лічаныя аматары музыкі. Манюшка дзякаваў лёсу, які звёў яго з Банольдзі. Спявак і кампазітар моцна сябравалі. Чуццём артыста Банольдзі ўлоўліваў у творах сябра тое, што многія пачалі разумець і цаніць праз некалькі гадоў. Невыпадкова Манюшка прысвяціў спеваку оперу "Галька". Апрача оперы — яшчэ і сем рамансаў: на вершы Яна Чачота ("Праснічка", "Салоўка"), Эдварда Жэлігоўскага ("Мелодыя"), Стэфана Вітвіцкага ("Ад'езд", "Гулянка"), а таксама дзве песні на вершы Вальтэра Скота з ягонай "Азяровай дзяўчыны" ў перакладзе на польскую Антона Адынца. (Адзін з твораў Манюшка прысвяціў і жонцы Ахілеса — Леакадзіі Багнеўскай.) А ў лютым 1851 года кампазітар напісаў песню "Pelligrina rondinella" на вершы самога Ахілеса Банольдзі.

Як вядома, партыю Ёнтака ў "Гальцы" павінен выконваць тэнар, але ў Вільні, дзе адбылася прэм'ера першай двухактавай рэдакцыі оперы, Манюшка, нікому не давяраючы акрамя Банольдзі, выпісаў партыю Ёнтака ў разліку на Ахілесава выкананне, гэта значыць, барытона. Пазней Банольдзі пераклаў лібрэта оперы на італьянскую мову, чым вельмі паспрыяў распаўсюджванню "Галькі" па сцэнах Італіі. Гэта быў не адзін выпадак, калі Банольдзі перакладаў вершаваныя тэксты манюшкаўскіх твораў. Так, адна з мес на вершы Тамаша Зана была перакладзена спеваком на латынь. Не цураўся Ахілес і кампазітарскай дзейнасці. Ва ўсякім разе, у 1878 годзе П.Юргенсон, рэкламуючы "Третье собрание романсов и песен для пения с аккомпанементом фортепиано", прапануе сярод іншых (за нумарам 408) раманс Банольдзі "Стары капрал" на вершы П.Ж.Беранжэ.

Вось як ацаніў С.Манюшка працу Банольдзі ў "Гальцы" ў лісце да нотавыдаўца і рэдактара часопіса "Рух музычны" Юзафа Сікорскага: "Нашы сумленныя аркестравыя музыканты, царкоўныя пеўчыя, колькі аматараў, аб'яднаўшыся ў трупу, лікам звыш сарака чалавек, старанна і чулліва дапамагалі мне да канца з усё ўзрастаючым па меры правядзення рэпетыцый разуменне справы і ганарыліся тым, што будуць спрыяць выкананню майго сачыненнейка, чым толькі змогуць. Колькі ў мяне было працы, гэта толькі магчыма апісаць на бычынай скуры. І загінуў бы я дакладна, калі б не знайшоў у Банольдзі больш, чым роднага брата: ён усяляк дапамагаў мне — рыхтаваў з выканаўцамі сольныя і некаторыя харавыя партыі, сам спяваў партыю Ёнтака, якая, як гаворыць мне сэрца аўтара, ніколі не будзе выканана лепей".

Колькі разоў у лістах Манюшкі згадваецца Банольдзі! "Як гаворыць Ахілес...", "Паспытай Банольдзі, бо ён лепей ведае...", "Банольдзі мне казаў..." і гэтак далей. Вось прыклад такога прыхільнага стаўлення да спевака з боку кампазітара. У лісце ад 15 чэрвеня 1858 года з Парыжа Манюшка піша жонцы: "... Першы і другі раз Ліст іграў два паланезы, мазура з "Галькі" і Гуральскія танцы ў чатыры рукі са спадарыняй Калергіс... Нягледзячы на белыя валасы, што надзвычай дзівосна спадаюць яму на плечы, малады энтузіязм захаплення мастацкімі творамі яго не пакінуў. Толькі, што, бядак, іграць развучыўся і часта-густа губляе фурманку (спытай Банольдзі, што гэта азначае, і скажы яму, што я яго найчулліва абдымаю, што дзякую яму за перакладчыцкую працу; што ўся найбольшая карысць, якую спадзяюся атрымаць з вандроўкі, будзе набыццё ўмацавання таго вышэйшага ў сабе пераканання, якое заўсёды меў пра яго артыстычнае выхаванне. Скажы яму таксама ясна: няхай фартуну за вакно не выкідвае, а намагаецца так уладкаваць усё, каб мог абавязкова перабрацца ў Варшаву. Гэта маё нязменнае разуменне ягонай будучыні, а спазненне невыказна мучыць мяне... Дадам, што пра Банольдзі, свайго вучня, Ліст памятае...)".

Дарэчы, рэдактар "Сабраных лістоў" Станіслава Манюшкі — выданне, на якое мы абапіраемся, — дык вось, рэдактар "Лістоў" Вітольд Рудзіньскі адзначае ў каментары да гэтага месца: "Губляе фурманку (спытай Банольдзі, што гэта азначае...) — гэта значыць губляе рытм" (ці нітку сюжэта, уток. — **Я.Янушкевіч**). І далей: "Банольдзі, які спазнаў польскую мову толькі ў Вільні, вельмі захапляўся каларытнымі правінцыйнымі (гэта значыць беларускімі. — **В.С.**) выказваннямі, пра што сведчаць ягоныя лісты". Ад сябе дадамо — і "Лісты" Манюшкі таксама.


Кастусь Каліноўскі. Вільня. Не пазней лютага 1863 г. Фотаздымак Ахілеса Банольдзі.

Пра тое, што Банольдзі цікавіўся не проста мясцовым жыццём, а ў самым шырокім сэнсе культурай беларусаў, сведчыць рэцэнзія Манюшкі ў часопісе "Рух музычны" (у № 5 за 1857 год) з Вільні пра канцэрт, што адбыўся 3 красавіка і ў якім прымаў удзел Ахілес Банольдзі: "...На заканчэнне пан Банольдзі (артыст, настаўнік спеваў, які больш чым дзесяць гадоў таму асеў у Вільні) спяваў "Мацька", песню Манюшкі ў суправаджэнні аркестра: спяваў яе як заўсёды — па-майстэрску. Дарэмна я распісваў бы, жадаючы падаць хоць нейкае ўяўленне аб заслугах гэтага артыста: яны не стасуюцца пад аніякую рубрыку штодзённых музычных клопатаў... Хто чуе яго — адразу цэніць і шануе. Тым, хто пачуць яго не маюць магчымасці, альбо і тым, хто няўважна слухаюць, няхай будзе дазволена звярнуць увагу, што, калі сёння нас вабяць чары італьянскай музыкі,


Ахілес Банольдзі.

Банольдзі прысвячае сябе выключна збіранню таго, што годна быць узятым, але раскінута па нашай зямлі. Гэта таксама і вельмі працаёмка!".

Як бачым, аўтарытэт спевака ў вачах Манюшкі быў непахісным. Калі ж у Вільні пасля заканчэння вучобы ў Германіі апынуўся Фларыян Міладоўскі — даўні, яшчэ з мінскіх дзіцячых гадоў сябра Станіслава, — той з першых знаёміць яго з Ахілесам. Неўзабаве з друку выходзіць зборнік рамансаў Міладоўскага на вершы Прусіноўскага, у якім замест тытула было надрукавана прысвячэнне: "Ахілесу Юзафу Банольдзі".

На пачатку 1850-х гадоў Манюшка і Банольдзі кожнае лета ездзілі ў Друскенікі, аднак не дзеля паляпшэння стану здароўя — кампазітар і там аддаваў увесь свой час канцэртам, якія наладжваў, для наведнікаў курорта, разам з Банольдзі.

У 1854 годзе сябры заснавалі ў Вільні таварыства св.Цыцыліі, паставіўшы мэтаю выхаванне ў віленчукоў мастацкага густу праз выкананне найлепшых твораў рэлігійнай музыкі. Мелася на ўвазе выкананне хаця б двух канцэртаў у сезон. Болей за тое — Манюшка спадзяваўся стварыць выдавецтва, якое б друкавала рэлігійныя творы. На жаль, гэтыя спадзяванні не спраўдзіліся, і зборнік "Песні нашага касцёла", складзены кампазітарам падчас працы арганістам касцёла св. Яна ў Вільні, ён выдаў толькі ў Варшаве.

Час раскідаў па свеце сяброў. Манюшка з'ехаў у Варшаву, Міладоўскі ў Францыю, Банольдзі застаўся ў Вільні. Лісты да Станіслава падпісваў не ўласным імем, а крыптаграмай "Ёнтак, Мацек, Лірнік" — імёнамі найбольш удалых, як было прызнана кампазітарам, герояў манюшкаўскіх твораў.

Чаму Банольдзі не паехаў услед за Манюшкам у Варшаву? Тым болей гэта дзіўна, што запрашаў спевака не проста сябра, а дырэктар опернага тэатра, які меў магчымасць паспрыяць ягонаму ўладкаванню на новым месцы. Чаму Банольдзі, калі і бываў у Варшаве, дык не наведваў ліцвінскія зямляцтвы, на што вельмі абураўся Манюшка? Адказ трэба шукаць не ў непаразуменнях паміж Ахілесам і Станіславам. Справа ўвогуле, відаць, не тычылася мастацкіх і сяброўскіх зносін. Уладзімір Мархель зазначаў: "Напярэдадні паўстання 1863 года Банольдзі, які ўсёй душой успрымаў ідэі вызваленчай барацьбы, стаў членам камітэта руху". І таму, з канспіратыўных меркаванняў, ён не мог часта бываць на людзях, а мастацкія справы адышлі на другі план. Вось прычына, па якой спявак не выкарыстаў запрашэнне Манюшкі.

Банольдзі дзеля наладжвання падпольнага друку адкрыў у Вільні фотамайстэрню з літаграфіяй. "Гэта ён увекавечыў зямное аблічча кіраўніка паўстання на Беларусі. Добра вядомы і дарагі нам усім фотаздымак. Зняты на поўны рост, Каліноўскі поўны ўнутранай моцы і шляхецтва. Позірк засяроджаны, сцяты, сягае некуды далёка. А там яго, Кастусёва, Галгофа, і ён гатовы ўзысці на яе. Ён прадчуваў, што хваля тая вось-вось надыдзе, і таму, відаць, ахоплены клопатамі, аддаў імгненне свайго кароткага жыцця спадару Банольдзі. Бадай, упершыню фотааб'ектыў так пільна ўглядаўся ў чалавека, бо тут быў не проста этнаграфічны тыпаж ці каларытная мадэль, а праз прыватную біяграфію асобы ўглядваўся лёс цэлага народа. Партрэт настолькі выразны, што рэдкаму мастаку ўдавалася ўзняцца вышэй, ці хоць бы на ўзровень яго вобразнай структуры", — пісаў Міхась Раманюк.

"На пачатку лютага Ахілес Банольдзі быў высланы як іншаземны падданы за межы Расіі. Гэта ў нейкай ступені дапамагло яму арганізаваць закупліванне зброі для паўстанцкіх атрадаў Літвы і Беларусі", — гаворыць Уладзімір Мархель у кнізе "Крыніцы памяці". У Парыжы, дзе ён знаходзіўся пэўны час, Банольдзі з'яўляўся ўпаўнаважаным паўстанцкага камітэта. Са зброяй вяртаецца на Беларусь, "але агентам Трэцяга аддзялення ўдалося натрапіць на след Банольдзі. Яго схапілі. Прыгавораны да пакарання смерцю, ён здолеў уцячы... У Дні Парыжскай Камуны Ахілес Банольдзі змагаўся на барыкадах". Ужо не спявак, а капітан арміі камунараў, Ахілес ізноў са зброяў у руках, ізноў побач з паплечнікам па паўстанні 1863 года, а зараз генералам Парыжскай Камуны Валерыем Урублеўскім. "Песні Станіслава Манюшкі, усё ж, былі з ім. Паранены, не ў стане трымаць зброю ў руках, ён спяваў перад смерцю і, як герой Манюшкаўскай песні, "памёр, граючы на ліры". Памёр "За Вольнасць нашу і вашу".

**Віктар СКОРАБАГАТАЎ**

# "АДНАГО ЖЫЦЦЯ МНЕ МАЛА.."

## Сустрэчы з Міхаілам Шэмякіным



*Міхаіл Шэмякін і Уладзімір Высоцкі.*

Нас тут чакалі. Нізкая чыгунная брамка была адчынена. На невысокім узгорку ўзвышаўся даволі змрочны дом з чырвонай цэглы, які нагадваў французскі замак з тых, што ўжо трыста гадоў упрыгожваюць узбярэжжа ракі Луары. Перад ім — на ярка-зялёнай траве два незвычайныя жалезныя механізмы, нешта накшталт эксперыментальных канструкцый мастакоў-авангардыстаў.

Праехаўшы трошкі па сцяжынцы, мы апынуліся перад акуратным двухпавярховым будынкам: прыгожым і нават святочным рабілі яго разнастайныя каменныя інкрустацыі, якія аздаблялі ўсю сцяну вакол уваходных дзвярэй. Справа, ля самых дзвярэй — чыгунны разны столік і такія ж чорныя вытанчаныя, нібыта карункавыя фатэлі. Перад уваходам у вузкі дворык, што прыціснуўся да дома, застыглі сфінксы. Над імі на невысокім падмурку — адмыслова выгнутыя чорныя ганконгскія львы.

Непадалёку на разным бронзавым фатэлі сядзеў суровы бронзавы чалавек з маленькай галавой. З-пад карункавых металічных манжэт строгай камізэлькі былі бачныя нервовыя рукі з доўгімі пальцамі. Мы пазналі адзін з самых вядомых у Расіі твораў Міхаіла Шэмякіна — скульптуру імператара Пятра І, усталяваную некалькі гадоў таму ў Петрапаўлаўскай крэпасці.

Худзенькая рудавалосая жанчына гадоў трыццаці ў чорных штанах і чорным джэмперы хутка выйшла з-за цяжкіх разных дзвярэй, ветліва паціснула нам рукі і з лёгкім акцэнтам прадставілася: "Сара дэ Кей".

Пакуль маэстра заняты, Сара прапанавала нам паглядзець створаны паводле ягонага праекта унікальны парк скульптур, размешчаны перад домам: паміж драўлянымі альтанкамі і невялікім басейнам, схаваным за роўнымі невысокімі елачкамі, нібыта за жывым зялёным плотам.

"Дзевяць гадоў таму, калі Шэмякін набыў гэты стары дом, пабудаваны паводле замовы заможнага амерыканца французскімі рабочымі па ўзоры аднаго з замкаў у французскім стылі, ягоныя ваколіцы нагадвалі гарадскі сметнік рэштак будаўнічых матэрыялаў, які зарос атрутнымі раслінамі, ператварыўшыся ў непралазныя джунглі. Расчышчаючы прастору для парку, бульдозеры працавалі тут даволі працяглы час", — распавядала Сара.

Цяпер гэта цяжка ўявіць: нас атачала дагледжаная, творча арганізаваная прастора. Справа ад басейна мы ўбачылі скульптуру вясёлага, задзірлівага сабакі ў касцюмчыку камергера з доўгай люлькай у пашчы. "Побач з гэтай скульптурай магіла любімага сабакі Шэмякіна — бультэр'ера Уркі, які памёр некалькі гадоў таму. А вось на гэтай шыльдачцы можна прачытаць ягоны радавод", — патлумачыла Сара.

Побач з драўлянай альтанкай мы заўважылі невялікую постаць Антона Чэхава, выкананую вядомым скульптарам старога пакалення, нябожчыкам Міхаілам Анікушыным. Калісьці ён падтрымаў рашэнне аб высылцы непаслухмянага Шэмякіна з СССР, але потым, праз дзесяцігоддзі, дамогся, каб шэмякінскага Пятра І усталявалі ў Пецярбургу.

У цэнтры парку скульптур узвышалася конная статуя. Бронзавы чалавек, які сядзеў на кані, меў чатыры твары: ён глядзеў адначасова ў бакі, а таксама наперад і назад. Аголеная медная нага з магутнымі мускуламі ўпіралася ў аголеную костку пазваночніка. На адным плячы — рыцарскія даспехі, а напалову сагнутая рука трымала на далоні маленькі, нібыта лялечны, чэрап. "Гэта аўтапартрэт Шэмякіна — у мінулым, цяпер і ў будучыні", — сумна ўсміхнулася Сара.

На невысокім падмурку побач мы ўбачылі велізарны бронзавы чэрап. І мне ўзгадалася прызнанне Шэмякіна: "Як і ўсе нармальныя людзі, я заўсёды думаў пра Смерць. У юнацтве я гуляў па могілках, вывучаў надмагільныя пліты. Я часта спыняўся ля разбураных бальшавікамі скляпенняў дваранскіх сем'яў. Перад невытлумачальным харастом разбітых скульптур я часта камянеў, нібы зачараваны".

Пяць метраў дбайна падстрыжанай травы аддзялялі "Чэрап" ад бялюткага мармуровага бюста каралевы Марыі-Антуанеты, які, відавочна, быў выкананы ў мінулым стагоддзі французскім скульптарам. У гэтым парку ён не быў самотна — з суседняга падмурка на нас строга глядзеў яе мармуровы муж Людовік XVI.

Троху ў баку, нібыта састарэлы кумір, якога скінула з п'едэстала чыясьці магутная рука, ляжаў пусты мужчынскі торс. Шэразеленаватая сталь падкрэслівала дасканаласць формаў, з торса "пазіраў" вялікі мальберт і цэлы букет жалезных рук. "Гэта Апалон Бельведэрскі — твор нашага сябра, балгарскага скульптара Андрэя Лякарскага. Ён выстаўляўся разам з Шэмякіным у адной з парыжскіх галерэй", — растлумачыла Сара.

Праз некалькі крокаў ад Апалона, хваравіта схіліўшы галаву, застыг, невядома як трымаючыся на пальцах, аголены хударлявы чалавек з сумным, засяроджаным тварам. "А гэта — "Вісельнік" амерыканскага скульптара Леанарда Баскіна, — прадоўжыла свой аповед Сара. — Як ні дзіўна, гэта ягоная пастаянная, можна сказаць, улюбёная тэма. А вунь там, на падмурку — ім жа зробленая галава. Мы знайшлі яе неахайна кінутай, калі былі ў яго ў гасцях. І ўгаварылі аддаць нам. Баскін яе вельмі не любіў і хацеў выкінуць. Але калі наведаў нас і пабачыў яе тут, нават нешта ўхвальнае прамармытаў".

Гасцінная Сара паклікала нас піць гарбату з пірожнымі — іх напекла маці Шэмякіна — Юлія Мікалаеўна, якая прыехала да яго ў госці з Францыі. Зімой яна жыве ў Парыжы, а ўлетку — побач з сынам ва ўтульным драўляным аднапавярховым доме з верандай і нязменнымі львамі ля ўваходу. У юнацтве яна была актрысай, здымалася ў трох даваенных кінафільмах і іграла ў Ленінградскім тэатры камедыі Акімава. Падчас вайны скончыла курсы медсясцёр і пайшла на фронт. Пасля вайны кіравала самадзейным тэатрам, і маленькі Міша пастаянна іграў у пастаўленых ёю п'есах. Мабыць, менавіта тады ён назаўсёды закахаўся ў тэатр. І з тае пары свядома тэатралізуе сваё жыццё і творчасць, удзельнічае з кампаніяй сяброў у знакамітых карнавалах у Венецыі.

... Агромністая зала, дзе мы пілі гарбату, нагадвала кунсткамеру: на сценах, акрамя карцін, віселі чарапы дзіўных жывёл, са столі звісалі вырабы з рога, аздобленыя срэбрам. Ля правай сцяны, побач з доўгім сталом, які цалкам быў застаўлены разнастайнымі меднымі нацюрмортамі, я заўважыла знакамітую гітару Уладзіміра Высоцкага, што захоўвалася ў парыжскай майстэрні мастака, куды бард нярэдка прыязджаў проста з аэрапорта. Ля левай сцяны — узвышаліся магутныя падсвечнікі ў выглядзе сярэбраных лялек-Пятрушак, якія перакульваліся. Хударлявы і зграбны Міхаіл Шэмякін у сваёй паўвайсковай вопратцы-кіцелі, фуражцы і чорных штанах, у высокіх афіцэрскіх ботах хутчэй нагадваў 30-гадовага афіцэра-дэсантніка, які служыў у Афганістане, чым 54-гадовага мэтра, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Расіі, ганаровага доктара двух амерыканскіх і аднаго французскага універсітэтаў, сябра Нью-Ёркскай Акадэміі навук, узнагароджанага залатым медалём у Венецыі, прызам Нішыдо парыжскай мэрыі і ордэнам Рыцара мастацтваў і літаратуры Міністэрства культуры Францыі.

Сара папярэджвала нас, што Міхаіла нярэдка прымаюць за сына знакамітага мастака і просяць паклікаць Шэмякіна-старэйшага. Але ўважлівы чалавек адразу б прыкмеціў пранізлівы і добры позірк цёмных вачэй, што блішчэлі з-пад акуляраў, па-юнацку адкрытую, даверлівую ўсмешку, далікатны, правільны профіль. Тры глыбокія шрамы, што перасякаюць правую шчаку, не псавалі яго, хутчэй — дадавалі мужнасці. Ён сядзеў у разным драўляным фатэлі з высокай спінкай, падобным да трону, і нетаропка піў каву. Справа на такі ж "царскі" фатэль пасела Сара і ціхенька пачала перакладаць яму англійскую гаворку гасцей.

За сталом высветлілася, што Міхаіл Шэмякін па-сапраўднаму не абыякавы да афганскай вайны, а дакладней — да лёсу расійскіх ваеннапалонных, на якіх забыліся падчас перамоваў. Хвалюючыся за будучыню гэтых хлопцаў, мастак разам з Сарай удзельнічаў у перамовах у Афганістане і Пакістане, стварыў міжнародны камітэт для дапамогі ваеннапалонным і спецыяльны фонд, падарыўшы воінам-інвалідам буйную суму грошай для набыцця інвалідных калясак і пратэзаў.

І я чамусьці ўзгадала, што бацька Міхаіла — кабардзінец, палкоўнік Міхаіл Пятровіч Шэмякін, які памёр у Маскве ў 1972 годзе, амаль усё сваё жыццё, акрамя некалькіх ваенных і пасляваенных гадоў, жыў разам з сям'ёй у маленькіх вайсковых гарадках Расіі, Латвіі, Азербайджана. Таму "чамаданны" побыт і нялёгкае жыццё прафесійных вайскоўцаў Міхаіл Шэмякін ведае добра.

Ну, а пра шчодрасць Шэмякіна ў Расіі можна было б узгадваць і часцей. Роднаму гораду — Пецярбургу, з якога ён быў высланы 26 гадоў таму, у 1971 годзе, ён падарыў тры скульптуры: Пятра І, які сядзіць на троне, помнік замежным архітэктарам, усталяваны на Самсоньеўскіх могілках, і двух сфінксаў, якіх акадэмік Д.С.Ліхачоў ацаніў так: "Шэмякін прадоўжыў на берагах Нявы шэсце сфінксаў... якраз насупраць самай страшэннай турмы "Чырвонага тэрору" пакінуў сваю пару сфінксаў М.Шэмякін... Парнасць сфінксаў сімвалізуе нібыта ўнутраны характар трагедыі, што адбываецца. Вытокі гібелі — у раздваенні народа, у "міжусобных бойках", у падзеле Русі на "апрычную" і звычайную. Але стала заўважнай перамена і ў саміх сфінксах. У іх яскрава вызначаліся рысы смерці. Адна палова — чэрап, другая — яшчэ жывая. Ці пераможа жыццё смерць?.. Чым скончыцца "санкт-пецярбургскі карнавал?" Калі пачалі гаварыць пра гэтых сфінксаў, Шэмякін прызнаўся, што прысвяціў іх памяці сваякоў, якія загінулі ў сталінскіх лагерах.

Мастак (і тут праяўляецца ягоная каўказская шчодрасць — яшчэ адна спадчына, атрыманая ад бацькі-кабардзінца) дазваляе сабе не памятаць зла тым, хто некалі ўдзельнічаў у ягоным выгнанні. Сярэдняй мастацкай школе пры Інстытуце жывапісу, скульптуры і архітэктуры імя І.Рэпіна, дзе ён вучыўся падлеткам некалькі гадоў і з якой быў выключаны ў 9-м класе (бо шанаваў не савецкіх куміраў, якіх прапаноўвала праграма, а Пікаса, Рэнуара і Гагена), Шэмякін перадаў 10 тысяч долараў — Дзяржаўную прэмію, уручаную яму прэзідэнтам Расіі Б.Ельцыным у 1994 годзе.



*Малюнак М.Шэмякіна да песні У.Высоцкага "У адной дзяржаве, з насельніцтвам" (тэкст песні не знойдзены).*

**Лола ЗВАНАРОВА,**
**Міжнародная пісьменніцкая калонія "Ледыг-хаўз",**
**спецыяльна для "Культуры".**
*Клаверак—Омі—Нью-Ёрк*

*(Заканчэнне будзе.)*

ЗАМЕСТ КРОПКІ

# "ДЗЯЎЧЫНА МАЁЙ МАРЫ"

Я і цяпер памятаю кіно майго дзяцінства: ніякія шэдэўры сённяшняга дня вышэй для мяне ўжо не ўзняліся... Для кожнага з нас, пасляваенных хлапчукоў, асабіста выступалі — не, не артысткі і артысты, а прыгажуні і ўлюбёнкі Арлова і Ладыніна, героі, самыя смелыя, высакародныя і сумленныя, лепшыя на свеце Кручкоў, Алейнікаў, Бернес, Кадачнікаў... нават Дзіна Дурбін і Марыка Рок, гэта значыць, "Сястра ягонага дварэцкага" і "Дзяўчына маёй мары", і тыя не грэбавалі намі. "Хочаш бліжэй? — пыталіся яны. — Сядай на першы рад".

Ніколі дасюль я не цытаваў самога сябе. І ўпершыню зрабіў гэта (цытата з апавядання 20-гадовай даўніны), каб яшчэ раз засведчыць, кім былі артысты кіно для майго пакалення. А "Дзяўчына маёй мары" — першы для нас такі фільм-шампанскае, дзе здымалася свабодная, лёгкая і вельмі прыгожая Марыка Рок, якая зрабілася "дзяўчынай нашай мары". Ёю мы пачалі вымяраць свае будучыя "прыхільнасці".

Легенда... Далёкая легенда майго дзяцінства, падораная "трафейным" нямецкім фільмам у 1947 годзе.

А што ж я бачу на кастрычніцкім, 1997 года, экране майго брэменскага тэлевізара? Марыку Рок! Жывую! Усмешлівую і чароўную.

"Яшчэ некалькі гадоў таму, — кажа яна, — я адыходзіла са сцэны, як заўсёды, зрабіўшы сальта і некалькі піруэтаў. Хаця ў сябе дома, у садзе, яшчэ перакульваюся: там трава і мякка падаць. А ў жыцці я далёка не заўсёды падала мякка".

Ёй — 84 гады. Яна пражыла нялёгкае, але цудоўнае жыццё, прыносячы людзям радасць. Яна зрабілася нацыянальным гонарам.

Марыцы было 9 гадоў, калі яна ўпершыню выйшла на сцэну. У 11 — прафесійная актрыса, удзельніца групы-рэвю, Марыка зарабляла грошы для сям'і. У 13 гадоў — першае выступленне ў Парыжы ў знакамітым Moulin-Rouge. Ці многія актрысы свету могуць прад'явіць такі факт са сваёй біяграфіі ў такім узросце? У 15 гадоў — першы прыз на конкурсе піруэтаў у Нью-Ёрку на Брадвеі. З 1930 года — тэатры і — кіно, кіно, кіно... Яна знялася ў першым каляровым нямецкім фільме — "Каралева чардаша" і — зрабілася зоркай, сімвалам Германіі.

Ці шчаслівая знакамітасць у асабістым жыцці? Так. Так! Яе любілі і яна любіла. Яна пахавала двух мужоў, абодва лічылі яе "сваёй лепшай паловай". Калі памёр другі муж, Марыка даведалася, што значыць дэпрэсія. Яе ратавала праца. Асноўным месцам жыцця зрабіўся тэатр. Тым не менш, адной цяжка...



Марыка Рок са сваёй дачкой Габрыэлай.

"Я прачынаюся ў сваім вялікім доме з раскошлівым садам у Бадэне, непадалёк ад Вены, і з неахвотай пачынаю дзень. Мне няма для каго апранаць прыгожыя пеньюары. Я выходжу ў сад, дзе цяпер квітнеюць апошнія ружы і вяргіні... — усё навокал цудоўнае, а мне тужліва. На жаль, мая дачка не дорыць мне ўнукаў, і я заўсёды адна".

Ці сумуе яна аб мінулым? Безумоўна. Калі чалавек малады, ён кажа сам сабе: у мяне ўсё наперадзе. Скажам, можна зноў пайсці замуж. Але ў маім узросце... Калі квітнеюць апошнія ружы, асабліва цяжка на сэрцы. Я не люблю мароз. Я хачу на гэты час зрабіцца сурком і праспаць усю зіму".

І хаця яна спадзяецца, што вочы ў яе, нібыта ў той "дзяўчыны маёй мары", яшчэ маладыя, многія жанчыны сярэдняга ўзросту хацелі б мець яе цела: трэніраваную постаць артысткі, акрабаткі, нястомнай жанчыны. Яна штодзень плавае і кожны вечар займаецца гімнастыкай.

Калі ў яе пытаюцца пра паклоннікаў, яе твар асвятляецца знакамітай чароўнай усмешкай. "Іх шмат. Усё яшчэ шмат. Яны цудоўныя, і я ім удзячная. Яны спыняюць мяне на вуліцы і цалуюць руку. Гэта мяне суцяшае".

Летась, падчас музычнага свята ў Котбусе, яна ўразіла гледачоў надзвычайным піруэтам. Гэта было апошняе выступленне Марыкі Рок. "Я сама сябе адправіла на пенсію. Мае прыхільнікі ў гэта не вераць. Магчыма, і я да наступнага сезона таксама не паверу. Прапановы ўсё яшчэ паступаюць. Трэба жыць і тады ўсё будзе зразумела. Магчыма, гэта не апошнія ружы ў маім жыцці..."

На стале стаялі самыя прыгожыя ружы Германіі — да яе 84-годдзя.

**Навум ЦЫПІС, наш уласны карэспандэнт**
*Брэмен*

# МАСАТОМА ЯМАДЖЫ

Масква сустракала сусветна вядомага японскага дызайнера Масатома Ямаджы. Заснавальнік дызайнерскай студыі "MA-ji création" сваю першую калекцыю прадставіў у 1986 годзе ў Токіо. Тады ж Масатома адкрыў краму — boutique. Ужо ў 1986 годзе мадэльер скарыў Амерыку. На працягу шасці гадоў ён працягвае трыумфальнае шэсце па свеце. Дызайнер стварае калекцыі толькі мужчынскага адзення, бо лічыць сваім абавязкам вынаходзіць і ўвасабляць у жыццё вобразы моцных гэтага свету. Трэба адзначыць, што лепшыя прадстаўнікі мужчынскага насельніцтва планеты даўно ўжо прызналі японца і з задавальненнем апранаюць ягонае адзенне. Масатома працуе для "зорак". Сярод ягоных кліентаў Роберт дэ Ніра, Аль Пачына, Джэк Нікалсан, Роберт Даўні-малодшы, Мік Джагер, Пітэр Гэбрыэл і Майкл Джэксан. Яго абагаўляе і Вупі Голдберг, вядомая аматарка мужчынскіх касцюмаў. У паказах Масатома звычайна працуе толькі адна дзяўчына. У Парыжы ён запрасіў для ўдзелу ў дэфіле топ-мадэль Крыстэль. У Маскве гэты гонар быў нададзены былой манекеншчыцы, а цяпер стылісту агенцтва "Персона" Вользе Марозавай. Маскоўскія манекеншчыцы ў вопратцы "ад Масатома" пачуваліся ці то галівудскімі зоркамі, ці то захавальнікамі традыцый Аль Капонэ. Сапраўды, адзенне яго каштуе дорага, нават па японскіх мерках. Напрыклад, дызайнерскі пінжак абыдзецца жадаючым прыблізна ў 1000 долараў, а гальштук з пер'я ў 500 долараў. Маскоўскія гангстэры збіраюць грошы.



Масатома Ямаджы...



... і адзенне, што каштуе дорага.

**Андрэй БЯРЭЗІН, наш уласны карэспандэнт**
*Масква*

# СЯРЭБРАНАЯ ГАЛОША

Другі раз у Маскве адбылася цырымонія ўзнагароджання "Сярэбраная галоша", дзе самыя "сумніўныя" людзі расійскага шоу-бізнесу сабраліся ў кінатэатры "Пушкінскі", каб атрымаць, нарэшце, належнае. Дарэчы, трэба адзначыць, што цырымонію наведала больш камерсантаў, чым летась, і гэта сведчыць пра тое, што расійскія знакамітасці пачалі ставіцца да сябе з гумарам. Праўда, Дзмітрый Малікаў не здолеў перамагчы прыступ самалюбства і не з'явіўся атрымліваць прыз у намінацыі "Суха і камфортна" — за рэкламную кампанію шампуня "Head and shoulders". Разам з ім у намінацыі была Тамара Гвердцэтэлі — з той жа нагоды, і спявачка Валерыя — за дзіўную любоў за мыла "Luxe". Не было таксама і Лены Зосімавай, спявачкі, якую "лепей адзін раз пабачыць, чым сто разоў пачуць". Што ж тычыцца самога шоу, дык яно, мякка кажучы, магло б быць і лепшым. Адсутнасць дынамікі, неабаяльныя вядучыя і кепская дэкарацыя зрабілі сваю справу — палова гасцей пакінула залу ўжо праз 20 хвілін пасля пачатку цырымоніі. Троху суцешыла арганізатараў прысутнасць у зале Алы Пугачовай, Іллі Рэзніка і Валянціна Юдашкіна, але яны, здаецца, таксама засталіся незадаволенымі, бо мужна сядзелі да самага заканчэння, а гэтае выпрабаванне было не з лёгкіх. Ці трэба казаць, што мінулагодняя "Сярэбраная галоша", якая была пастаўлена Андрэем Фаміным, была нашмат лепшай? Спадзяёмся, што ў наступным годзе "Сярэбраны дождж" адродзіць ідэю і выратуе шоу-бізнес ад напльву бяздарных "зорак" эстрады і такіх самых рэжысёраў.

**Андрэй БЯРЭЗІН, наш уласны карэспандэнт**
*Масква*

# КРЫЖАВАНКА



***Па гарызанталі:***

5. Народны пісьменнік Беларусі, аўтар рамана "Глыбокая плынь". 6. Скамянелая жоўтая смала хвойных дрэваў для вырабу розных аздоб. 10. Імя англійскай пісьменніцы, майстра дэтэктыўнага жанру. 11. Горад у Францыі на рацэ Рона, багаты архітэктурнымі помнікамі. 12. Акцёр, які выконвае на сцэне другарадныя ролі без слоў. 13. Французскі кампазітар XIX ст., аўтар музыкі да балета "Капелія". 15. Індзейскае племя, што жыло ў Перу ў XI — XIII стст. 17. Пярэдняя частка галавы чалавека. 18. Беларускі пісьменнік, аўтар аповесці "Палескія рабінзоны". 20. Доўгая вузкая вязаная або тканая хустка. 21. Імя шведскай пісьменніцы, аўтара аповесці "Пепі Доўгаяпанчоха". 22. Імя гераіні паэмы Пушкіна "Бахчысарайскі фантан". 25. Усякі чалавек, якога яднае з тым, хто гаворыць, агульнасць радзімы, класавых інтарэсаў. 26. Штотыднёвая грамадска-культурная газета, якая выдаецца ў Польшчы з 1956 г. 27. Аўстрыйскі кампазітар XVIII ст., аўтар оперы "Арфей і Эўрыдыка". 28. Расфарбоўка ў выглядзе дробных кропель на абрэзе кнігі. 32. Беларускі пісьменнік XX ст., кіраўнік літаратурнай арганізацыі "Маладняк". 33. Народны артыст Беларусі, з 1957 г. працуе ў Беларускім тэатры імя Я.Купалы. 34. Шырокае палотнішча, якое закрывае сцэну ад глядзельнай залы. 35. Невялікая фарфоравая або гліняная пасудзіна. 37. Разнавіднасць якога-небудзь колеру. 38. Народны пісьменнік Беларусі, аўтар сатырычнай камедыі "Хто смяецца апошнім".

***Па вертыкалі:***

1. Непразрыстае каляровае шкло для мазаічных работ. 2. Опера Дж.Вердзі. 3.Апавяданне А.П.Чэхава. 4. Аповесць рускага пісьменніка XX ст. Мусатава А.Н. 7. Карчма ў Італіі, Швейцарыі. 8. Керамічны выраб для абліцоўкі сцен і печаў. 9. Мяккія каляровыя алоўкі (без аправы) для жывапісу. 13. Беларускі жывапісец, графік, скульптар XX ст. 14. Упрыгожанне ў выглядзе вялікага кальца, якое носяць на руцэ. 16. Спосаб друкавання. 17. Горад у Італіі. 19. Варажскі князь, заклікханы ў 862 г. "з-за мора" наўгародцамі. 20. Беларускі сучасны паэт, аўтар зборніка лірыкі "Свіцязянскія хвалі". 23. Творчы калектыў мастакоў. 24. Вуснае апавяданне, якое жыве ў народзе. 29. Стан, фігура. 30. Духавы медны музычны інструмент. 31. Шаўковая тканіна з кароткім густым ворсам. 35. Тое, што і кінафільм. 36. ... — Саблін — адзін з пачынальнікаў беларускай мастацкай кінематаграфіі.

**Крыжаванку склала Любоў ІОНАВА**

КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА
Выдаецца з кастрычніка 1991 года

Заснавальнік — **Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь**

Галоўны рэдактар — **Людміла КРУШЫНСКАЯ**

Рэдакцыйная калегія:
**Валянцін АКУДОВІЧ** (першы намеснік галоўнага рэдактара), **Арсен ВАНІЦКІ**, **Андрэй ВАШКЕВІЧ** (намеснік галоўнага рэдактара — адказны сакратар), **Валерый ГЕДРОЙЦ**, **Уладзімір ГІЛЕП**, **Ядвіга ГРЫГАРОВІЧ**, **Аляксей ДУДАРАЎ**, **Валянцін ЕЛІЗАР'ЕЎ**, **Вольга ІПАТАВА** (рэдактар аддзела), **Ігар КЛОКАЎ** (рэдактар аддзела), **Алена ПІСЬМЯНКОВА** (рэдактар аддзела), **Міхаіл ПТАШУК**, **Алесь РАЗАНАЎ**, **Віктар СКОРАБАГАТАЎ**, **Юрый ЦВЯТКОЎ**, **Леанід ШЧАМЯЛЁЎ**.

Рэдакцыя:
Рэдактары аддзелаў — **Міхась БАШУРА**, **Жанна ВАСАНСКАЯ**, **Барыс КРЭПАК**
Спецкарэспандэнты: **Зміцер ВІШНЁЎ**, **Сяргей МІНСКЕВІЧ**
Загадчык аддзела фотаілюстрацый — **Генадзь ЖЫНКОЎ**
Мастацкі рэдактар — **Наталля ОВАД**
Карэктар — **Мая КЛІМКОВІЧ**

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 418.

**Адрас рэдакцыі:**
220029, МІНСК (МЕНСК),
вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1.
Тэлефон: (017) 276-94-66

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.

Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.

Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.



Фармат А3.
Індэкс 63875.
Агульны наклад 4091.

Падпісана ў свет 27.11.97. у 18.00.

Замова 7079

Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку".
220013, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79.

**М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**
**Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**